№ 45 (254) 5 лістапада 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ХВАРОБА МЁТЧЫ

**У Барысаўскім раёне зарэгістраваная прыёмная інфэкцыйная хвароба, падобная да "каровінага шаленства". Ад яе няма лячэньня.**



Інфэкцыі XXI стагодзьдзя — тэма нумару. Старонка 6.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Домаша ня рэзалі

*Для зандаваньня сэрца не спатрэбілася наркозу*



Яшчэ перад выбарамі Сямён Домаш, былы кандыдат у прэзыдэнты, трапіў у больніцу з сэрцам. Дактары канстатавалі перадінфарктны стан. Адбылося гэта пасьля таго, як Домаш, запісваючы свой перадвыбарчы выступ на БТ, глынуў вады са шклянкі, якую паставілі перад ім. Літаральна ў той жа вечар, згадваюць супрацоўнікі перадвыбарнага штабу гарадзенскага палітыка, яму стала ніякавата. Гэта магло быць простым зьбегам абставінаў. Аднак нарадзілася і іншая вэрсія — пасьля таго як ад інфаркту памёр Валеры Скварцоў, кароткачасовы кіраўнік тэлебачаньня, што спрабаваў утаймаваць тэлевізійную мафію.

Домаш назіраў за выбарамі з ложка рэабілітацыйнага цэнтру. Менскія дактары настойвалі на шунтаваньні. (*Шунт* — гэта штучны сасуд, зроблены ў абход "хворага" ўчастку артэрыі.) Дзеля гэтага Домаш і паехаў у Кракаў (пра лячэньне паклапацілася менская місія АБСЭ). Там яго агледзелі на катэдры кардыялёгіі мясцовага ўнівэрсытэту і прыйшлі да высновы, што... апэрацыя не патрэбная, бо можна проста папачысьціць каранарныя сасуды пры дапамозе адмысловага зонду. Працэдура доўжылася тры гадзіны без наркозу і скончылася позна ўвечары ў сераду.

Цяпер самы папулярны палітык беларускае апазыцыі пачуваецца нармальна, ён поўны аптымізму і фізычнай энэргіі. Пазаўчора ён вярнуўся ў Беларусь. Розныя палітычныя сілы хацелі б залучыць яго ў свае рады. Апошнімі такой ідэяй загарэліся, напрыклад, сацыял-дэмакраты Грыба-Караля.

Аляксандар Мілінкевіч, кіраўнік гарадзенскай "Ратушы", мяркуе, што вяртаньне Домаша ў палітыку вельмі своечасовае. Хутка муніцыпальныя выбары. Важна, каб умацаваныя за мінулы год асяродкі "Рэгіянальнай Беларусі" не расьцерушыліся. Прадстаўнікі "усёй Беларусі, ад краю ў край", цьвёрда настроіліся закласьці новую палітычную сілу, якая б адлюстроўвала інтарэсы ня толькі менчукоў. Гэта будзе зроблена на базе перадвыбарнай групы падтрымкі Домаша. Устаноўчы сход новага руху папярэдне заплянаваны на студзень.

**Віктар Шыбут**




**Калі падступны і заможны Менск схацеў Ганчарыка, у гарадзенцаў, што паверылі абаяньню Домаша (а таксама ў будучыя пасады), гэта выклікала праўдзівы шок. У выніку Беларусь засталася з Лукашэнкам, а Горадня — са сваёй заходняе́цю, крамамі, кавярнямі, касьцёламі, цэрквамі, малітоўнымі дамамі ды рынкамі, са сваімі трыма мовамі і трыма трасянкамі. Старонка 7.**

# Рэкорд "за" Лукашэнку паставіла Ветка

*Працька і Грыб абвясьцілі вынікі незалежнага назіраньня за выбарамі*

На мінулым тыдні Беларускі Хельсынскі Камітэт прадставіў свой спэцыяльны даклад "Выбары прэзыдэнта Беларусі: вынікі незалежнага назіраньня". У ім дающа ацэнкі дэмакратычнасьці верасьнёўскіх выбараў на грунце зьвестак розных арганізацыяў, якія наглядалі за выбарнай кампаніяй. Незалежныя назіральнікі так і ня здолелі падлічыць, колькі дакладна галасоў набраў Лукашэнка, а колькі — Ганчарык. Па словах Мечыслава Грыба, дакладныя памеры фальсыфікацыяў вылічыць немагчыма, бо ніхто ня ведае нават, колькі выбаршчыкаў у рэальнасьці прагаласавала. Таму можна казаць толькі пра прыблізныя памеры фальсыфікацыі — да траціны галасоў, на ягоную думку, а ўсе лічбавыя ацэнкі назіральнікаў — прыкідачныя. Як вядома, напярэдадні выбараў незалежныя сацыялягічныя інстытуцыі давалі Лукашэнку трохі менш за 50% падтрымкі, а Ганчарыку — трохі меньш як 30% пры чаканым удзеле 85% выбарцаў.

Кіраўніца Беларускага Хельсынскага Камітэту Тацяна Працька мяркуе, што ад 25 да 28% галасоў, пададзеных за Ганчарыка, Гайдукевіча або супраць усіх кандыда-


М.Грыб


Т.Працька

таў, маглі быць перададзеныя Лукашэнку. Грыб выказаў меркаваньне, што сапраўдных лічбаў ня ведаюць ня толькі ў тэрытарыяльных камісіях, але іх ня ведае нават сам прэзыдэнт. Вось жа, Грыб, сустаршыня "Незалежнага назіраньня", назваў Лукашэнку прэзыдэнтам.

Працька таксама назвала Лукашэнку прэзыдэнтам. Спасылаючыся на ананімныя крыніцы ў Адміністрацыі, яна паведаміла, што 9 верасьня ў атачэньні прэзыдэнта вагаліся, колькі адсоткаў пісаць за Лукашэнку: 80% або 52% (як у свой час у Расеі за Пуціна). Вырашылі спыніцца на 75%, мяркуе спн.Працька.

З дакладам можна азнаёміцца праз Інтэрнэт (bhc.unibel.by).

Іншы сустаршыня "Незалежнага назіраньня" Алесь Бяляцкі ня ўдзельнічаў у гэтай прэсавай канфэрэнцыі, скарыстаўшыся запрашэньнем на разьвітальны прыём з нагоды сканчэньня знаходжаньня ў Менску супрацоўніцы місіі АБСЭ Бэаты Разуміловіч, якая вяртаецца дамоў у ЗША.

Апублікаваныя зьвесткі мясцовых выбарчых камісій сьведчаць, што найбольшы працэнт галасоў за Лукашэнку быў пададзены ў Веткаўскім раёне, населеным перапаважна нашчадкамі "маскалёў" — расейцаў-старавераў. Тутака кіраўніка дзяржавы, паводле афіцыйных зьвестак, падтрымалі 95,81% выбарцаў (проці 1,67% у Ганчарыка). На другім месцы — Брагінскі раён, таксама вельмі забруджаны радыяцыяй і заселены напалову перасяленцамі з розных куткоў СНД, за імі — іншыя чарнобыльскія раёны. Слабое суцяшэньне для апазыцыі!

**Мікола Бугай**

**ІНІЦЫЯТЫВА "НЕЗАЛЕЖНАЕ НАЗІРАНЬНЕ"** **сьцьвярджае, што падрыхтавала 16 тыс. назіральнікаў, але быццам бы 4 тыс. зь іх адмовіліся ад назіраньня, баючыся рэпрэсій уладаў. Яшчэ 3 тыс. назіральнікаў ад Праваабарончага цэнтру "Вясны" і Фонду Лява Сапегі ўлады не дапусьцілі на ўчасткі ў апошні момант. Паводле ацэнак лідэраў "Назіраньня", яны здолелі ахапіць 70% участкаў. Паводле ацэнак назіральнікаў АБСЭ, падчас датэрміновага галасаваньня назіральнікі прысутнічалі толькі на 52% участкаў.**

## "Наша Ніва" і "Arche" ў Баранавічах

13 лістапада, у аўторак, а 16-й у Баранавічах, у агенцтве рэгіянальнага разьвіцьця "Варута" (Камсамольская, 24, уваход ззаду дому — 2 паверх) адбудзецца сустрэча рэдактараў "НН" і "Arche" з чытачамі. Прыедуць Валерка Булгакаў, Андрэй Дынько. Пасьля сустрэчы – канцэрт Зьмітра Бартосіка.



## "Рацыі" – 2 гады

3 лістапада 1999 году ў вечаровым этэры на кароткіх хвалях журналістка Вольга Бабак прывітала слухачоў ад імя радыё "Рацыя" — "першага беларускага радыё трэцяга тысячагодзьдзя". Віншуем супрацоўнікаў самай беларускай радыёстанцыі з малым юбілеем і зычым распачаць вяшчаньне ў дыяпазоне *FM* ня толькі ў Беластоку, як цяпер, а і ва ўсёй Беларусі.

## З усёй краіны

### Ладэн нам ня піша

**На пачатак лістапада 59 беларускіх адрасатаў атрымалі лісты зь "белым парашком".** Вірусу сібірскае язвы не было ні ў адным. У Расеі ўжо зарэгістравана больш за 6000 падобных выпадкаў. У Літве — больш за 100. Беларусы — не такія жартаўнікі. Рада Бясьпекі ласкава папярэджвае, што гэткага кшталту жарты кваліфікуюцца як "пагроза ўчыненьнем акту тэрарызму" і караюцца пазбаўленьнем волі да пяці год. Праўда, пра бактэрыялягічны тэрарызм у Крымінальным кодэксе нічога не напісана.

**Б.Т.**

### Сібірская язва і Крычаў

**Быў колісь вуглік і ў Крычаве.** Як распавядаюць мэдработнікі-вэтэраны, у 60-я гады ў аднаго тутэйшага чалавека захварэла на сібірку карова. Яе забілі і пахавалі па ўсіх правілах барацьбы з эпідэміямі. Аднак гаспадар уначы разам зь сябрам выкапаў жывёліну і злупіў зь яе скуру — на продаж. Пры гэтым ён парэзаў палец. Праз колькі дзён небарака апынуўся ў інфэкцыйным аддзяленьні Крычаўскай бальніцы, і стасункі зь ім мелі толькі мэдработнікі ў спэцыяльных ахоўных касьцюмах. Неўзабаве прывезьлі туды і ягонага сябрука. Абодвух удалося выратаваць.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Ня больш за дзьве жывёліны на хату

**Жыхары Менску маюць права трымаць у кватэры ня больш за дзьве дарослыя жывёліны.** Такое рашэньне прынялі дэпутаты Менгарсавету. Памеры і парода "малодшых братоў" не рэглямэнтуюцца.

**Эдвард Людовіч**

### Помнік ігуменьні

**У Чэрвені (колішні Ігумен) на плошчы Свабоды ўсталявалі помнік легендарнай манахіні, заснавальніцы гораду.** Драўляная выява (аўтар — ігуменец Генадзь Матусевіч) з крыжам і рукапісам у руках цяпер упрыгожвае невялічкі сквэр, дзе хутка мае быць пабудаваны касьцёл.

Колькі гадоў таму ў Чэрвені ўсталявалі мэмарыяльную шыльду ў гонар маці Максіма Багдановіча Марыі, якая тут нарадзілася. Але табліца з Пагоняй муляла вочы начальству, і напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў дошка зьнікла.

**Юры Чавусаў, Чэрвень**

### Непісьменных не бяруць

**Пачаўся зімовы прызыў у войска.** У Гомельскай вобласьці камісіі ваенкамату за некалькі першых дзён выявілі 20 юнакоў, якія наагул ня ўмелі чытаць і пісаць. Адправілі давучвацца.

**Паводле "Інтэрфаксу"**

## Чуткі

### У БДУ новы рэктар?

**Кажуць, што пасьля сканчэньня ўрачыстасьцяў, прысьвечаных 80-годзьдзю ўнівэрсытэту, рэктара Казуліна здымуць з пасады.** Найбольш верагодны пераемнік Казуліна — першы прарэктар БДУ Жук.

**Штудэнт**

### Навошта ж дрэвы ламаць?

**Днямі ў Смургонях адбыўся суд над двума непаўналетнімі, якія ў адным зь мікрараёнаў гораду зьнішчылі цэлую ліпавую алею — ажно 32 маладзенькія дрэўцы.** Аднаго зь іх кінула каханка, вось ён і скіраваў сваю агрэсію на "зялёныя насаджэньні", а сябар падтрымаў — з пачуцьця мужчынскай салідарнасьці. Каб хлопцы ведалі, што гэты ўчынак будзе каштаваць ім па 191 тысячы кожнаму, перш бы 10 разоў падумалі. Яшчэ й дрэўцы давялося новыя пасадзіць — але гэта ўжо па ўласнай ініцыятыве. Пэўна, сорамна стала.

### Апэрацыя "Цыганы"

**У Ашмянскім раёне арыштавалі чатырох цыганоў, якія збывалі макавую саломку.** У іх канфіскавалі 2 кг 600 г "наркаты".

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

### Сабака напаў на дзяўчынку

**Васьмігадовую Волечку з Дарагічына пакусаў уласны сабака — нямецкі аўчар, якога бацькі заўжды трымалі ў вальеры, а ў той нешчасьлівы дзень выпусьцілі.** У дзяўчынкі мноства ранаў галавы, зьнятая частка скальпу, адкушаны палец. Пасьля рэанімацыі яе зьмясьцілі ў Берасьцейскую абласную бальніцу, дзе робяць шматлікія пластычныя апэрацыі. Сабаку забілі.

### Наркабабуля

**За 20 тысячаў рублёў прадала незнаёмаму чалавеку градку з макам пэнсіянэрка Ш. зь вёскі Балаты Кобрынскага раёну.** Не пасьпеў незнаёмы перарабіць мак у саломку, як быў схоплены. У пастарунку ён патлумачыў, адкуль "тавар". Суд даў бабулі два гады ўмоўна.

### Укралі воз і бочку

**У вёсцы Глінішчы Кобрынскага раёну ў адну зь нядаўніх начэй невядомыя скралі калгасны воз і бочку з-пад малака, куды зборшчык зьліваў сабранае ў людзей малако.** У калгасе гэта былі апошні воз і бочка.

### У Берасьці дэзактывуюць пляму

**Паблізу ад цэнтру Берасьця, ля порту, дзе ў савецкі час перагружалі радыеактыўную руду, знаходзіцца радыеактыўная пляма.** Урад прыняў рашэньне пра яе ліквідацыю і выдзеліў на гэта мільярд рублёў. Радыеактыўны могільнік разьмесьціць непадалёк ад вёскі Струга, што ў Бярозаўскім раёне. Жыхары навакольляў проста ўсьцешаныя навіной, але зрабіць нічога ня могуць.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

### Школа прадае цыбулю

**Школа вёскі Нарач (Мядзельшчына) прадала цыбулі на мільён рублёў.** Куплялі збольшага санаторыі. Вырučаныя грошы мусяць пайсьці на патрэбы школы і на прэміі вучням-выдатнікам.

А пакралі са школьных палеткаў цыбулі мільёнаў, мабыць, на восем, — кажуць людзі.

**Вацлаў Зьвяруга, Мядзел**




**Беларус Іванкоў узяў "срэбра" на чэмпіянаце сьвету па спартовай гімнастыцы. У агульнакамандным заліку беларусы — першыя. Сэкс-сымбалі Беларусі — невялічкі гімнаст Янка Іванкоў і атлетка як абняць Яніна Карольчык.**

## Спорт

### "Белшына" – чэмпіён

**Бабруйская "Белшына" пасьля дзьвюх паразаў запар сталася чэмпіёнам Беларусі па футболе.** 26 кастрычніка яна прайграла салігорскаму "Шахцёру" (2:4), а ў мінулую суботу — менскаму "Дынама" (1:2). Аднак "Белшына" ўсё ж застаецца на першым месцы. Асноўны канкурэнт бабруйчанаў, барысаўскі клюб БАТЭ, згуляў унічыю (0:0) з салігорскім "Шахцёрам". Перад апошнім турам "Белшына" мае 55 пунктаў, БАТЭ — 51, "Дынама" й "Нёман" — па 50.

**Людовіч**

## Пацярпелыя за Беларусь

У мінулы панядзелак судзілі маладафронтаўцаў, затрыманых 26 кастрычніка за пікет у памяць менскіх падпольшчыкаў. Аляксею Шэіну і Максіму Вінярскаму далі па 150 "мінімалак" штрафу, Паўла Севярынца пасадзілі на 10 сутак. Сярод арыштаваных былі два аўтары "НН" — Аляксей Чарняеў і Вольф Рубінчык. Чарняеў тры ночы сядзеў на Акрэсьціна, а пасьля на тыя самыя трое сутак быў асуджаны. Гэтулькі ж далі Рубінчыку, якому пасьля "папярэдняга затрыманьня" засталося даседзець пяць гадзінаў. Адно што ён папрасіўся адкласьці адседку да сёньняшняга дня, каб не сядзець у турме ў шабат. Абодва цяпер хварэюць. Гарадзенскі суд даў папярэджаньні Мечыславу Гіруцю і Тадэвушу Гавіну за ладжаньне сустрэчы Ганчарыка з выбарцамі.

## Ліст у рэдакцыю

### Мы не нахлебнікі!

**І зноўку восень. І зноўку іду ў школу сеяць разумнае, добрае, вечнае... Ці разумнае? Бог ведае... Аднак ужо сталіся звыклымі на нашых уроках літаратуры пытаньні пра сэнс жыцьця, маральнасьць, пачуцьцё ўласнае годнасьці...**

"Стоп, — кажу сабе, — а ці варта тлумачыць дзецям, што пачуцьцё ўласнае годнасьці — гэта павага да сябе і атачэньня? Ці не прасьцей адкінуць роздум пра вечнае, канкрэтна й дакладна давесьці ім, што Чацкі сьмешны і дурнаваты, а выйграюць заўжды малчаліны, якія дагаджаюць ўсім без вынятку... Сумна, ці ня так? Бо настаўнік, пазбаўлены пачуцьця ўласнае годнасьці, ня здатны абуджаць гэтае пачуцьцё ў сваіх выхаванцаў. "Ах, вы згушчаеце фарбы", — чуецца звыклае. Магчыма... Ды толькі ці можна "сеяць душы ў людзех" (бо менавіта гэта лічу за галоўнае ў працы настаўніка) чалавеку, заціснутаму нэндзай і бяспраўем?

Быцьцё настаўнікаў Быхаўскага раёну залежыць ад тэрмінаў атрыманьня заробку. А затрымкі з выплатамі даволі значныя: ад 6 верасьня, калі выдалі мізэрныя грошы за жнівень, большую частку якога мы былі ў адпачынках, — да 26 кастрычніка. І толькі выпадак ці шчасьлівы зьбег абставінаў (прыезд Лукашэнкі ў Магілёў) дазволіў нам, настаўнікам Быхава, атрымаць заробак за верасень. А ў міжчасьсі... начальніцкія вокрыкі з тае нагоды, што мы хлеба ня сеем і ня жнем, а толькі разбазарваем раённы бюджэт, які й так пусты. Ну, так, ня тчэм, не пячэм, ня шыем, не вырабляем аніякіх матэрыяльных каштоўнасьцяў. Уяўляю, што было б з краінаю, калі б усе "нахлебнікі" — лекары, настаўнікі, дзеячы культуры — пачалі старанна сеяць, ткаць, пячы...

Тады хлеба будзе ўволю, калі настаўніка альбо лекара ня будуць лічыць нахлебнікам.

**Ірына Хышова, Быхаў**

## Навіны гаспадарскія

### Картка замест гатоўкі

**Падвышэньне заробкаў мэдыкам ды настаўнікам (да Новага году яны мусілі дасягнуць 100 даляраў) адкладаецца,** бо ў бюджэце не стае больш чым 100 мільярдаў "заплянаваных" грошай. Але Міністэрства эканомікі пры гэтым абяцае, што ў сьнежні 2002 г. сярэднія заробкі ў Беларусі дасягнуць 120—150 "умоўных адзінак", а курс даляра складзе 1820 беларускіх рублёў.

**Новы міністар транспарту і камунікацыяў Міхаіл Баравы зьбіраецца распачаць вайну з ільготамі на праезд.** Цяпер іх маюць 5 мільёнаў беларусаў. Галіна церпіць značныя страты, тым часам як блізу 60% аўтобусаў ужо адпрацавалі сваё.

**Штомесяц у Беларусі выкрываюць 2 тысячы выпадкаў крадзяжоў электрычнасьці.** Не зважаючы на тое, што па цяперашніх тарыфах грамадзяне плацяць толькі 40% ад сабекошту кожнай кіляват-гадзіны, большасьць "энэргетычных" злачынстваў прыпадае менавіта на насельніцтва, а не на прадпрыемствы.

**Урад рыхтуецца да пераводу аплаты за ўсе буйныя пакупкі на безнаяўны разьлік.** Калі ўсё пойдзе гладка, у хуткім часе за любыя рэчы і паслугі коштам болей за 200 даляраў па курсе беларусы будуць разьлічвацца праз банкаўскую картку, а не гатоўкай.

**Падчас прыватызацыі беларускім бізнэсоўцам дадуць магчымасьць набыць на льготных умовах 15—20% акцыяў найбольш пэрспэктыўных прадпрыемстваў краіны.** Астатняе трэ будзе купляць па рэальнай цане. Пра гэта паведаміў міністар эканомікі Уладзімер Шымаў. Гэта выклікае неспакой, што большая частка прыватызаваных прадпрыемстваў можа трапіць у рукі расейскага капіталу.

**Паводле зьвестак Міністэрства статыстыкі на 1 верасьня, 4107 беларускіх прадпрыемстваў (35,1% ад агульнай колькасьці) — стратныя.** На 1 студзеня такіх прадпрыемстваў было 2670 (23,4%). Больш за палову прыбытковых прадпрыемстваў маюць нізкую рэнтабэльнасьць (да 10%), а траціна — усяго ад 0 да 5%, то бок зьяўляюцца патэнцыйна стратнымі. Найбольш бядотнае становішча ў лёгкай ды харчовай прамысловасьці, а таксама ў галіне вытворчасьці будматэрыялаў.

**Міністар сельскай гаспадаркі і харчаваньня Міхаіл Русы пабойваецца, што праблемы з малочнымі і мяснымі прадуктамі ўзімку ня будзе.** Аб'ём нарыхтаваных кармоў ужо перавышае ўзровень мінулага году. Усяго сёлета мяркуецца назапасіць 6 млн. т сенажу і 18 млн. т сіласу, г.зн. у 1,5 разу болей, чым летась.

**Беларусь мерыцца атрымаць у наступным годзе мільярд даляраў замежных інвэстыцыяў.** На гэта разьлічвае Міністэрства эканомікі. Адначасова Міністэрства адмаўляе магчымасьць дэфолту, які ў адным з інтэрвію прадказаў Аляксей Вагнаў, бізнэсовец і кіраўнік камісіі палаты прадстаўнікоў па грашовакрэдытнай палітыцы й банках. Міністэрства абяцае трымаць беларускі рубель стабільным.

**Сяржук Іваноўскі**

## Дакумэнт

# Адкрыты ліст

*У Раду Міністраў Рэспублікі Беларусі ад беларускай грамадзкасьці*

Ужо некалькі тыдняў беларускае грамадзтва сур'ёзна занепакоена праблемай уратаваньня нацыянальнага нэкрапалю Курапаты — месца пахаваньня ахвяраў масавых бальшавіцкіх рэпрэсіяў 1930-1941 г. пад Менскам. Гэты могільнік найбольш дасьледаваны сярод аналягічных мясьцінаў па ўсіх кутках краіны і зьяўляецца сымбалем агульнанацыянальнай мартыралёгіі, а таксама помнікам гісторыі рэспубліканскага значэньня. У апошні час над мэмарыялам навісла пагроза ганьбаваньня і частковага разбурэньня ў сувязі з работамі па пашырэньні Менскай кальцавой аўтадарогі. Будаўнічыя арганізацыі распачалі работы ў гэтым раёне паводле праекту, зацьверджанага Радай Міністраў у 2000 г. На жаль, былы склад Ураду пагрэбаваў думкай грамадзкасьці і кулюарна вырашыў зьмяніць пастанову Рады Міністраў ад 1993 г., якая прадугледжвала пашырэньне МКАД на гэтым участку па Заслаўскай аўтадарозе ("бэтонцы") у абход урочышча Курапаты. Будаўніцтва, пачатае па новым праекце, што не абмяркоўваўся з грамадзкасьцю, прывядзе да ганебнага пашкоджаньня трагічнага помніка айчыннай гісторыі і нацыянальнай памяці, а таксама да пагаршэньня экалягічнай сытуацыі ў мікрараёне Зялёны Луг. Таму, як вядома, грамадзкасьць і мясцовыя жыхары выступаюць супраць гэтага праекту, лічаць, што яго рэалізацыя засьведчыла б поўную амаральнасць яго аўтараў і выканаўцаў, стала б ганебнай плямай у гісторыі Рэспублікі Беларусі.

У сувязі з выключным характарам гэтага помніка гісторыі, а таксама маральнай адказнасьцю нашага пакаленьня перад памяцю тысячаў палеглых і перад нашчадкамі просім вас:

1. Перагледзець сёньняшнюю праектную дакумэнтацыю па МКАД і вярнуцца да праекту 1993 г. па будаўніцтве аўтамагістралі ў абход урочышча Курапаты — помніка гісторыі рэспубліканскага значэньня.

2. Правесьці добраўпарадкаваньне тэрыторыі могільніку (у тым ліку правесьці рэстаўрацыю мэмарыяльнага знака ад народу ЗША, пашкоджанага невядомымі вандаламі), забясьпечыць ахову нэкрапалю і захаваць спакой спачылых.

3. Правесьці нараду ў Радзе Міністраў з удзелам грамадзкасьці дзеля вырашэньня гэтых пытаньняў.

Спадзяемся на мудрасьць і ўзаемапаразуменьне па гэтай праблеме.

З павагай,

**Анатоль Багатыроў, кампазытар; Лявон Баршчэўскі, пэдагог; Пётра Васілеўскі, мастак; Тамара Габрусь, архітэктар; Радзім Гарэцкі, акадэмік; Аляксей Дудараў, драматург; Віктар Красьней, філёляг, прафэсар; Жанна Літвіна, старшыня БАЖ; Уладзімер Пузыня, музыка; Аляксей Рагуля, прафэсар БДПУ; Пятро Русаў, археоляг; Эрнст Сабіла, пастар; Ала Сакалоўская, дацэнт МДЛУ; Людміла Сінькова, філёляг, прафэсар; Віктар Скарабагатаў, опэрны сьпявак; Вольга Судлянкова, філёляг; Аляксей Фралоў, музыка; Аляксандар Фядута, журналіст; Юры Хадыка, фізык, прафэсар; Георгі Штыхаў, гісторык, прафэсар і яшчэ 350 подпісаў.**

## Навіны за тыдзень

### Пасяджэньне Рады БНР

**На пасяджэньні Рады БНР абмяркоўвалася сытуацыя, што склалася ў Беларусі пасьля выбараў.** Удзельнікі адзначалі, што тэракты ў ЗША адцягнулі ўвагу сьвету ад Беларусі. Сёньняшняя задача — вярнуць увагу міжнароднай супольнасьці. Амэрыканскія беларусы мусяць сустракацца з тамтэйшымі палітыкамі і пераконваць тых у неабходнасьці фінансаваньня беларускай апазыцыі. Толькі так можна перамагчы антыбеларускую ўладу, мяркуюць радныя.

Зянон Пазьняк заявіў на пасяджэньні, што зараз апазыцыя мае дзьве асноўныя мэты: аб'яднаць усе незалежніцкія сілы, а таксама не дапусьціць захопу расейскім капіталам беларускіх прадпрыемстваў.

### Бандарэнка звольнілася

**Тэлевядучая Зінаіда Бандарэнка звольнілася "па ўласным жаданьні" зь Дзяржаўнага канцэртнага аркестру пад кіраўніцтвам Фінберга, дзе адпрацавала 10 год.** За гэтым, відавочна, стаяць палітычныя прычыны. Нагадаем, што на адной зь перадвыбарчых улётак "Час выбіраць" быў зьмешчаны ейны партрэт і подпіс: "Прыходзіць хамская ўлада, а мы ўсё церпім... І вось — нам даецца шанец!" Цяпер спн.Зінаіда толькі выкладае на журфаку БДУ, на аддзяленьні журналістаў радыё і тэлебачаньня.

**Б.Т.**

# Зьезд беднаты

**У новае тысячагодзьдзе Беларусь уступіла як адна з самых адукаваных дзяржаваў у сьвеце. Пра гэта заявіў, выступаючы 2 лістапада ў Менску на адкрыцьці Другога зьезду настаўнікаў, міністар адукацыі Пятро Брыгадзін.**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

У рабоце зьезду бралі ўдзел каля 700 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў краіны. Падазрона тое, што на зьезьдзе было прыкладна пароўну мужчын і жанчын, хоць апошнія складаюць абсалютную большасьць пэдагагічнага корпусу.

Лукашэнка ў сваім выступе на зьезьдзе шмат абяцаў. Калі ў школах будуць працаваць "моцныя настаўнікі", дык у краіне будуць "моцныя і добра выхаваныя вучні", казаў ён. Абяцаў большыя заробкі і бесстаронныя падручнікі. За асноўную мэту ён вызначыў пераход базавай школы на дзесяцігадовы тэрмін навучаньня. Лукашэнка сказаў, што ў Беларусі не існуе праблемы выбару паміж беларускай і расейскай мовамі, — народ, паводле ягоных слоў, "сам вызначыў, на якой мове яму размаўляць". На сёньняшні дзень, адзначыў Лукашэнка, школьнікі аваладваюць аднолькава дзьвюма дзяржаўнымі мовамі — беларускай і расейскай. Ён таксама заявіў, што Беларусь займае адно зь вядучых месцаў у Эўропе па колькасьці студэнтаў вышэйшых навучальных установаў. Таму перад дзяржавай, паводле ягоных словаў, стаіць задача не займацца падрыхтоўкай заведама беспрацоўных спэцыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Ён назваў дзьве галіны, для якіх спэцыялістаў рыхтуюць зашмат: эканоміка і юрыспрудэнцыя. Відаць, трэба чакаць скарачэньня набору ў ВНУ.

Мінулы зьезд сьмела можна назваць Зьездам беднякоў: нягледзячы на ўсю прапагандысцкую рытору, прафэсія настаўніка застаецца ў Беларусі адной з самых нізкааплатных. Сьціпласьць адзеньня дэлегатаў зьезду пацьвярджала гэта. Калі гэтак выглядае сабраная ў Менску адукацыйная намэнклятура, дык звычайнаму настаўніку зусім нясоладка жывецца. Размовы пра "самую адукаваную краіну" — слабое самасуцяшэньне.

**Мікола Бугай**

## Камэнтар рэдакцыі

### Лібэралізацыя безь беларусізацыі аслабіць дзяржаўнасьць

На зьезьдзе настаўнікаў ізноў прагучалі словы пра роўнасьць магчымасьцяў расейскай і беларускай моваў. Якая гэта роўнасьць, скажа любы, хто падлічыць долю людзей, беларускіх па культуры і мове, на розных прыступках сацыяльнае лесьвіцы. У заводзкіх цэхах, на калгасных палетках, у студэнцкіх аўдыторыях адшукаеце шмат беларусаў. Знайдзіце ж хоць аднаго ў сілавых структурах, Адміністрацыі прэзыдэнта або ў тлустых шэрагах набліжаных да яе бізнэсоўцаў і гаспадарнікаў. Пераход на расейскую мову і расейскі кодэкс паводзінаў застаецца адной з умоваў доступу ў лукашэнкаўскі апарат. Такая гэта роўнасьць. Асаблівы цынізм — заяўляць адваротнае на зьезьдзе настаўнікаў. Пэдагогі з аднаго боку — праваднікі цяперашняе несправядлівае палітыкі фальшаваньняў і прымусу. З другога — ці не найбольшыя ахвяры несправядлівасьці цяперашняга ладу. Убоства побыту, вечная галеча, поўная залежнасьць ад адміністрацыі, у вёсках амаль прыгон і натуральная гаспадарка.

Лібэралізацыя безь беларусізацыі толькі ўмацуе ў Беларусі няволю, несправядлівасьць і няпраўду. Не любыя рэформы карысныя. Адны адпавядаюць нацыянальным інтарэсам Беларусі і ўсіх беларусаў, іншыя — толькі інтарэсам купкі ўрадавых чыноўнікаў і гаспадарнікаў ды жменькі менскіх элітаў. Рэформы, скіраваныя на зьмену толькі формаў уласнасьці ў эканоміцы, пры захаваньні ранейшага ўціску ўсяго беларускага, прывядуць да далейшай экспансіі расейскіх крымінальных і шавіністычных вартасьцяў. Больш за тое, лібэралізацыя безь беларусізацыі немінуча аслабіць дзяржаўнасьць Беларусі. Лібэралізацыя бязь зьмены культурнае палітыкі — небясьпека для краіны. Мадэрнізацыя краіны не павінна прыйсьці з усходу. Гэта затармазіла б разьвіцьцё краіны на дзесяцігодзьдзі.

# Шлях да беларускай школы

*Бацькі школьнікаў зь беларускай гімназіі вымагаюць выдзяленьня транспарту для іхных дзетак*

Алесь Лагвінец, выкладчык паліталёгіі на франка-беларускім факультэце ў менскім прыватным Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце, дабіўся, каб ягонае дзіця вучылася па-беларуску. Каб мець такую магчымасьць, ён вярнуўся на радзіму са Страсбургу (Францыя, Эльзас), дзе жыў зь сям'ёй доўгі час, навучаючыся і стажуючыся. Аднак, каб сын меў магчымасьць вучыцца, ён мусіць штодня вазіць яго з Сухарава ў Кунцаўшчыну, у 4-ю гімназію. Знайсьці беларускую школу бліжэй не атрымалася.


Алесь Лагвінец са сваім сынам Антосем

Каб стварыць беларускамоўную клясу ў школе №211, блізка ад дому, Лагвінец сам разносіў абвесткі па школах Сухарава. Адгукнуліся бацькі толькі аднаго дзяўчынкі. Таму прыходзіцца дабірацца ў Кунцаўшчыну. Але дарога туды на грамадзкім транспарце займае аж 40 хвілінаў. Алесь Лагвінец зьвярнуўся да кіраўніка аддзелу адукацыі Менгарвыканкаму Міхала Ціцянкова з просьбай вы-дзеліць спэцыяльны аўтобус, каб вазіць дзяцей з розных мікрараёнаў у беларускую школу, раз няма магчымасьці атрымліваць адукацыю па-беларуску бліжэй. Ціцянкоў адказаў, што ва ўпраўленьні транспарту пакуль нічым дапамагчы ня могуць. З адміністрацыі Фрунзэнскага раёну, куды пад аналягічнай просьбай былі накіраваныя подпісы 20 бацькоў, чые дзеці таксама вучацца ў Кунцаўшчыне, адказу пакуль не прыйшло зусім.

Патрабаваньне бацькоў законнае: калі дзеці мусяць кожны дзень езьдзіць у іншы канец гораду, каб вучыцца на роднай мове, выдзяляйце ім аўтобусік, як гэта робіцца для дзяцей з тых населеных пунктаў, дзе няма сваёй школы.

**Людміла Гулюк**

# Вік зьяжджае?

**Ута Цапф, 60-гадовая дэпутатка Бундэстагу ФРН, кіраўніца парлямэнцкай камісіі па сувязях зь Беларусяй і камісіі па раззбраеньні, прызначаная старшынёй рабочай групы Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ па Беларусі.**


IREX-PROMEDIA

Палітоляг з Мангайму доктар Астрыд Заам, разважаючы ў інтэрвію радыё "Свабода" пра першыя крокі, якія зробіць Ута Цапф на сваёй новай пасадзе, заўважыла, што сярод іх будзе наданьне Беларусі статусу запрошанага госьця у ПА (зразумела, гэта станецца магчымым пасьля таго, як палата прадстаўнікоў набудзе паўнамоцтвы парляманту). Ящчэ, на думку Астрыд Заам, трэба зрабіць усё дзеля захаваньня місіі АБСЭ ў Беларусі. "Гэта, — сказала яна, — адно з найважнейшых пытаньняў, якія трэба вырашыць пасьля сыходу Віка з пасады кіраўніка місіі АБСЭ ў Менску ў канцы гэтага году".

Ці сапраўды нямецкі дыплямат, вынікі дзейнасьці якога неадназначна ацэньваюцца ў Беларусі, зьбіраецца зьехаць? У АБСЭ гэтыя словы не абвергнулі, але й не пацьвердзілі. Пасол Ганс-Георг Вік наступным чынам адкамэнтаваў для "НН" словы Астрыд Заам: "Кожны новы дзеючы старшыня, пост якога пераходзіць 1 студзеня на аснове штогадовай ратацыі між 55-цю дзяржавамі-ўдзельніцамі, мусіць вырашаць пытаньне ўкамплектаваньня пасад кіраўнікоў місіяў АБСЭ на месцах. Чарговы дзеючы старшыня, міністар замежных справаў Партугаліі Джэмі Гама, мусіць прыняць рашэньне ў дачыненьні да мандату дзеючых кіраўнікоў ці прызначыць новых. Таксама як і раней, будучы год ня будзе выключэньнем.

Няма аніякіх падставаў для спэкуляцый адносна якой-небудзь сувязі паміж прызначэньнем новага старшыні рабочай групы ПА АБСЭ па Беларусі, пытаньнем статусу Беларусі ў Парлямэнцкай Асамблеі і маім мандатам".

Як відаць з адказу, Вік не выключае, што можа пакінуць Беларусь.

**С.Б.**

# З Расеі пра Беларусь

## Беларусь будзе хіліцца да Эўразьвязу

Новаму прэм'ер-міністру Генадзю Навіцкаму, хутчэй за ўсё, адводзіцца галоўная роля ў справе правядзеньня жорсткіх і непапулярных мераў, цяжар якіх цалкам ляжа на плечы грамадзянаў Беларусі. Відавочна, што сацыяльныя льготы й датацыі, якімі дагэтуль карысталася насельніцтва, будуць значна скарочаныя. У першую чаргу гэта закране памеры аплаты камунальных паслугаў ‑ яны будуць істотна павялічаныя. Урад вымушаны будзе зьмяніць і прынцып фінансаваньня сыстэмы аховы здароўя, павялічыўшы небюджэтны складнік гэтага фінансаваньня.

Разам з тым новаму кабінэту ня ставіцца задача маштабнай лібэралізацыі нацыянальнай эканомікі. Для гэтага ў рэспубліканскага кіраўніцтва няма ні разуменьня катастрафічнага становішча ў гаспадарчым комплексе, ні палітычнай волі. Філязофія кіраўнічай эліты застаецца кансэрватыўнай, засьцерагальнай, а галоўнае, не дапускае магчымасьці зьніжэньня ўзроўню даверу і папулярнасьці першай асобы дзяржавы, якія грунтуюцца на прыярытэтах сацыяльнай абароны і падтрымкі насельніцтва, неапраўдана высокіх абавязках дзяржавы.

Любыя гаспадарчыя рэформы спалучаныя з пэўнай рызыкай, але сярод кіраўніцтва рэспублікі няма сілаў, здольных генэраваць эканамічныя навацыі і браць на сябе адказнасьць за ход іх рэалізацыі. Гэты працэс, з улікам славутай беларускай маруднасьці, меўся быць запушчаны яшчэ некалькі год таму. Тады, на фоне адноснай стабілізацыі ў макраэканамічнай сфэры, можна было чакаць эфэкту ад пасьлядоўных і прадуманых крокаў па лібэралізацыі рэспубліканскага гаспадарчага комплексу, шырокай прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і пераходу да рынкавых адносінаў у эканоміцы. Але ўсё гэта патрабавала папярэдняга глыбокага перагляду інстытуцыянальных асноваў, на які кіруючыя колы так і не змаглі наважыцца, чаго, дарэчы, ніяк не зразумеюць на Захадзе.

У пэрспэктыве сыстэмны крызыс, да якога коціцца Беларусь, аб'ектыўна вымусіць Расею аднавіць у поўным аб'ёме мытныя, гандлёвыя бар'еры і перагледзець раней узятыя на сябе абавязкі ў рамках саюзнай дзяржавы з мэтай засьцярогі сваіх нацыянальных інтарэсаў.

Пры гэтым чыста фармальна саюзная дзяржава можа і захавацца, працягваючы, як і сёньня, бязьдзейнічаць, аднак ужо ва ўмовах выразна выяўленай тэндэнцыі да рэзкага зьніжэньня міждзяржаўнага гандлю і ўзроўню палітычных і іншых кантактаў. Апошнім часам гаспадарчыя і экспартныя структуры Расеі і Беларусі паступова перастаюць узаемадапаўняць адна адну, фактычна ўсё больш і больш уцягваючыся ў сфэру вострай канкурэнцыі (як паміж сабой, так і на замежным рынку), што, натуральна, вядзе не да інтэграцыі, а да ўзаемнага адштурхоўваньня.

Перакананасьць у важнасьці захаваньня гаспадарчага мэханізму ў нязьменным выглядзе і выразнае імкненьне кіраўнічага слою Беларусі засьцерагчы сваю эканоміку ад узьдзеяньняў вонкавых фактараў вельмі хутка прывядзе беларускую ўладу (калі ўжо не прывяло) да актыўных пошукаў альтэрнатыўных рынкаў збыту і пастаўшчыкоў паліўна-энэргетычных рэсурсаў, а таксама багатых краінаў ці блёкаў, гатовых надаць Беларусі фінансава-эканамічную пратэкцыю. Відавочна, што сярод іх ня будзе Расеі, хоць бы зыходзячы зь яе больш чым сьціплай долі ў аб'ёме сукупнага сусьветнага валавога прадукту ‑ 1,2%, ці "сыравінных" 1,5% ад агульнага аб'ёму плянэтарнага экспарту. Беларусь, зыходзячы з рэальнай ацэнкі патэнцыялу Расеі, будзе больш хіліцца, што натуральна для малых краінаў, да такой магутнай звышдзяржавы, як Эўрапейскі зьвяз (больш як траціна сусьветнага валавога прадукту і больш чым 40% экспарту), пра што ўжо пасьпяшалася заявіць.

**Аляксандар Фадзееў, аналітык Інстытуту краінаў СНД**

**Аўтар рапарту аб датычнасьці кіраўніцтва краіны да зьнікненьня Захаранкі, Ганчара і Красоўскага жыве ў Бэрліне і надалей не зьбіраецца адмаўляцца ад сваіх абвінавачаньняў.**

# Алкаеў застаецца ў Бэрліне,

*але гатовы стаць генпракурорам краіны*


IREX-PROMEDIA

У інтэрвію радыё "Свабода" сп.Алкаеў заявіў, што ягоны рапарт складаўся не пад выбарчую кампанію, а быў падрыхтаваны яшчэ год таму. Алкаеў абяцае "пakазаць, дзе закапана", калі яму для гэтага дадуць паўнамоцтвы генэральнага пракурора. "Тады я... усё пакажу — дзе закапана, хто закопваў і калі". Пры гэтым ён гатовы вярнуцца ў краіну, толькі калі Лукашэнка арыштуе Шэймана, Сівакова й Паўлічэнку.

Алег Алкаеў мяркуе, што забойству быў нададзены выгляд выкананьня сьмяротнага прысуду дзеля таго, каб зьняць грэх з душы забойцаў. Выпісваўся пісталет СІЗА, якім расстрэльвалі асуджаных на сьмерць, і забойства Ганчара, Красоўскага і Захаранкі рабілася, такім чынам, імем Рэспублікі Беларусі. Таксама Алкаеў лічыць, што ня трэба зьнікненьне Завадзкага зьвязваць са зьнікненьнем Ганчара, Красоўскага й Захаранкі. Сувязі паміж гэтымі злачынствамі, на ягоную думку, няма.

**Б.Т.**

Грузія

# Палітыка двух крэслаў

## *Маскве ізноў не ўдалося скінуць Шэварднадзэ*

Падставаю палітычнага крызысу ў Грузіі стала спроба Дзяржбясьпекі праверыць фінансавыя дакумэнты прыватнай тэлекампаніі "Руставі-2". Тэлевізыйшчыкі паказвалі дакумэнты адмовіліся й распачалі жывую трансьляцыю гэтае "праверкі" на ўсю краіну. Праваральшчыкі, сумеўшыся, рэціраваліся, але "ўціск свабоды слова" выклікаў вулічныя маніфэстацыі пратэсту. У выніку Шэварднадзэ давялося адправіць у адстаўку спачатку міністра дзяржбясьпекі, а пасьля і ўвесь урад. На мітынгах і гучалі лёзунгі "Шэварднадзэ на пэнсію", а супрацоўнікі "Руставі-2" сьцьвярджалі, што на іх "наехалі" менавіта па загадзе прэзыдэнта.

Расейскія СМІ асьвятлялі сытуацыю ў Грузіі аднабакова: маўляў, людзям надакучыла цярпець карумпаваны рэжым Шэварднадзэ, які давёў краіну да галечы і ўцягнуў яе ў авантуры ў Абхазіі. А калі ў іх паспрабавалі забраць апошняе — свабоду слова, — яны не вытрымалі і выйшлі на праспэкт Руставэлі. Але калі ў Маскові "правяралі" НТВ, палітычнага крызысу не адбылося.

Армаз Санэблідзэ, галоўны рэдактар газэты "Сакартвэлас рэспубліка" мяркуе, што крызыс быў вынікам "канфрантацыі паміж кіраўнікамі парляманту, зьвязанымі з "Руставі-2", і прэзыдэнтам". Прадстаўнікі Нацыянал-дэмакратычнай партыі Грузіі сьцьвярджаюць, што тэлекампанія "Руставі-2" працуе на Расею: дзякуючы прапагандысцкаму прыкрыцьцю гэтага каналу расейцы бамбардавалі Кадорскую цясьніну, дзе знайшлі прытулак чачэнскія байцы. Гэтаксама тэлекампанія панэгатывісцку асьвятляла становішча ў Грузіі.

Ёсьць падставы падазраваць, што гэты раз Масква спрабавала скінуць грузінскага прэзыдэнта пры дапамозе "Руставі-2".

На Шэварднадзэ ўжо былі два няўдалыя замахі. У арганізацыі першага зь іх (1995) грузінскія спэцслужбы вінавацілі А.Каржакова і М.Барсукова — ахоўнікаў Ельцына. Другі замах (1997), на думку грузінаў, плянаваўся ў кабінэце Я.Прымакова. Чаму ў Грузіі падазраюць такія змовы? Чаму ад 1989 г. расейска-грузінскія стасункі можна акрэсьліць як халодную вайну, што выліваецца часам у канфрантацыю?

У красавіку 1989 г. савецкія войскі жорстка разагналі незалежніцкую дэманстрацыю ў Тбілісі, пакінуўшы на бруку дзясяткі забітых. А ўвесну 1991 г., калі Грузія абвясьціла пра выхад з СССР, Масковія заахвоціла да бунту "крэсы" — Паўднёвую Асэцію і Абхазію. У выніку гэтыя аўтаноміі дагэтуль дэ-факта падпарадкоўваюцца не Тбілісі, а Маскве і Ўладзікаўказу, а грузіны ня могуць дабіцца, каб Расея ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дамоўленасьцямі вывела войскі з базаў у Грузіі.

Расея незадаволеная празаходняй арыентацыяй Шэварднадзэ, які прызначыў міністрам абароны вышкаленага на Захадзе палкоўніка Давіда Тэўсадзэ. Грузінскія вайскоўцы вучацца не ў Маскве, а ў Стамбуле, Сэндгерсьце і Фортбрэгу. Нават уніформу ім шыюць у Вялікай Брытаніі і Турэччыне. Частымі гасьцямі ў Грузіі сталі амэрыканскія генэралы. ЦРУ і ФБР адчынілі ў Тбілісі свае канторы. Грузія традыцыйна падтрымлівае ўсе ініцыятывы NATO. Узамен за гэта ў Калхідү ідзе шчодрая амэрыканская дапамога (як на душу насельніцтва больш за Грузію атрымліваюць толькі Ізраіль і Эгіпет). Хрысьціянская Грузія — важны бастыён Захаду ля нафтаноснага Касьпію.

Расея вінаваціць Грузію ў спрыяньні суседзям-чачэнцам. У сумежных з Чачэніяй цясьнінах знайшлі прытулак тысячы чачэнскіх уцекачоў, між якіх партызаны. Тбілісі прызнае гэта, але прысягае, што сэпаратыстаў не падтрымлівае. Чачэнцаў, маўляў, проста "прытулілі сваякі". Крэмль патрабаваў ад Грузіі супольнай пацыфікацыі чачэнскіх вёсак. Шэварднадзэ адмовіў: інакш вайна магла б пашырыцца на ўвесь Каўказ.

Масква ў адказ абвесьціла Грузію дзяржавай, якая падтрымлівае тэрарызм, заклікала сваіх грамадзянаў устрымацца ад вандровак у Тбілісі. Летась Расея ўвяла для грамадзянаў Грузіі візавы рэжым. Гэта першы падобны выпадак у СНД. Пасярод зімы былі перападжальна спыненыя пастаўкі расейскага газу ў Грузію. У Тбілісі, дзе электрычнасьць зьяўлялася ў дамох на дзьве гадзіны ўранку і на чатыры ўвечары, адразу ўзьнікла рэвалюцыйная сытуацыя. Прарасейская апазыцыя на чале з кіраўніком Аджарыі Асланам Абашыдзэ заяўляе, што замежная палітыка Шэварднадзэ, ігнараваньне расейскіх інтарэсаў вядуць да катастрофы. Нацыянал-дэмакраты (прыхільнікі экс-прэзыдэнта Зьвіяда Гамсахурдзія) закідаюць прэзыдэнту нерашучасьць у руху на Захад і ўдзел у СНД. Шэварднадзэ імітуе цэнтрызм. У адным са сваіх штопанядзелкавых радыёвыступаў ён можа сказаць, што мэтай Грузіі зьяўляецца ўступленьне ў NATO, а праз тыдзень — што грузіны абяруць гарантаваны міжнародный супольнасьцю нэўтралітэт.

Э.Шэварднадзэ З.Жванія

Гэтым разам Расея ня здолела скінуць грузінскага прэзыдэнта. Надта дробнай была нагода. Але 75-гадовы Шэварднадзэ так ці інакш сыдзе. Найпазьней у 2005 г., на чарговых выбарах, яго зьменяць іншы. Хутчэй за ўсё, гэта будзе былы сьпікер парляманту Зураб Жванія, вядомы рэзкай крытыкай у адрас прыхільнікаў саступак Маскве, падтрымкаю NATO і жорсткім падыходам да Абхазіі. У той жа час ён блізка зьвязаны з прарасейскім тэлеканалам. Годны спадкаемца Шэварднадзэ! Грузіны лічаць, што такой малой краінай, як іхная, можа добра кіраваць толькі палітык, які добра ўмее сядзець на двух крэслах. Усьведамляе гэта і сёньняшні прэзыдэнт Грузіі, які калі-нікалі хваліць свайго "канкурэнта".

**Язапат Змысла**

REUTERS

## Вуглік у Вільні

**Амэрыканскае пасольства ў Вільні атрымала з радзімы пошту, заражаную сібіркай.** Сьмяротную пасылку адправілі зь Дзяржэдэпартамэнту ЗША паміж 21 і 24 кастрычніка. Тым часам захварэў рабочы, які сартаваў тую пошту. Амэрыканцы адразу ж папярэдзілі літоўцаў. Усе пяць мяхоў з карэспандэнцыяй былі скіраваны ў лябараторыю, і ў адным зь іх знайшлі вуглік. У Вільні да мяшка з трасцай дакрануўся толькі адзін чалавек — пасольскі кур'ер, які забіраў пошту ад самалёта, таму вялікай небясьпекі не прадбачыцца і ў Вільню можна ехаць сьмела.

Пасольства ЗША ў Літве два тыдні таму ўжо атрымала ліст з падазроным белым парашком, дасланы зь літоўскае правінцыі, але дасьледаваньне ня выявіла ў ім спораў вугліку.

У Летуве няма вакцыны для прышчэпкі ад вугліку, яе хутка прывязуць з-за мяжы. Пасьля прышчэпкі павінна прайсьці каля 8 месяцаў, каб чалавек набыў імунітэт.

**Сяргей Богдан**

Чэхія

## Чэхі памятаюць герояў

**Ордэн Томаша Масарыка атрымала з рук Вацлава Гаўла сям'я паляка Рышарда Сіўца, які ў 1968 г. учыніў самаспаленьне, пратэстуючы супраць уварваньня савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну.** 8 верасьня 1968 г. на варшаўскім Стадыёне Дзесяцігодзьдзя падчас урачыстага сьвяткаваньня дажынак ён падпаліў сябе на вачах тысячаў прысутных. Ад атрыманых апёкаў Сівец памёр праз чатыры дні ў шпіталі. У студзені 1969 г. самаспаленьне ўчыніў чэскі студэнт Ян Палах, а праз колькі дзён пасьля Палаха на адчайны чын наважыліся трое іншых дзецюкоў у Празе, Брне і Пльзэні.

Харватыя

## Прабачэньне ў габрэяў

**Прэзыдэнт Харватыі Сьціпэ Мэсіч перапрашаў на гэтым тыдні ў ізраільскім Кнэсэце (парлямэнце)** за злачынствы супраць жыдоў, учыненыя падчас другой сусьветнай вайны прагітлераўскім урадам Харватыі.

**С.Р.**

Чачэнія

# Расейскія страты растуць

Інфармацыйная ўправа прэзыдэнта Расеі абвесьціла пра страты расейскіх войскаў у Чачэніі, пачынаючы з 1 кастрычніка 1999 г., і пра чачэнскія страты. Крэмль прызнаўся, што ня здолеў зьнішчыць чачэнскую партызанку. Год таму колькасьць чачэнскіх змагароў ацэньвалі ў 1—1,5 тысячы чалавек, цяпер іх, на думку Масквы, ужо ад 1,5 да 2 тысячаў. На сёньня, паводле расейскіх зьвестак, чачэнскія сілы аб'ядналыя ў 100 у большасьці сваёй невялікіх групаў.

За два апошнія гады страты Расеі склалі 3438 чалавек забітымі і 11661 параненымі. (У першай чачэнскай вайне, паводле афіцыйных зьвестак, загінула 4800 расейцаў, у 10-гадовай аўганскай вайне загінула 14000 жаўнераў.)

Высновы для Крамля жахлівыя — колькасьць забітых расейскіх вайскоўцаў набліжаецца да 4 тысячаў, а чачэнскіх партызанаў чамусьці ня меншае, хоць і загінула іх, паводле ацэнак Крамля, утрая больш — каля 11 тыс.

Год таму Масхадаў у інтэрвію *Le Monde* ацэньваў колькасьць забітых у вайне наступным чынам: расейскае войска — каля 20 тыс. чалавек, чачэнскае войска — прыблізна 2 тыс., цывільнае насельніцтва — 40 тыс. Чачэнскія партызаны, згодна зь ягонымі словамі, "зьбілі 27 самалётаў, 40 гелікоптэраў і зьнішчылі больш за тысячу танкаў і БТРаў".

Інфармацыйная ўправа Пуціна падкрэсьліла, што расейцам удалося забіць палявых камандзіраў Бараева, Цагараева, Ахмадава. Расейскае войска за час баёў страціла забітымі васьмёх палкоўнікаў і двух генэралаў Генштабу.

**С.Р.**

УЛАДЗІМЕР ВЯТКІН

Башкірыя

## Цяжка жывецца землякам Латыпава

**Кожны трэці башкірскі прызыўнік прызнаны непрыгодным да службы ў расейскім войску.** Кожны шосты зь іх — дыстрофік, 14% рэкрутаў маюць псыхічныя расстройствы.

Зь Нью-Ёрку

# Будзённасьць часоў вайны

Пэўна, ёсьць свая праўда ў сьведчаньні, што амэрыканцы нібы дзеці: хутка забываюцца на непрыемнасьці. А мо не прызвычаіліся жыць у страху, сполаху, не прывучаныя штораніцы ўзьнімацца з трымценьнем сардэчным. Таму шэрасьці на тварах, сутаргавасьці ў рухах пакуль не назіраецца. А стае ад чаго, далібог! Табе афіцыйна паведамляюць, што трэба чакаць новых тэрарыстычных атакаў, але ня кажуць, дзе, калі, як. Чакаеш на 11 кастрычніка, трыццацявіну пачатку вайны. Чакаеш на 31 кастрычніка, сьвята Ўсіх Сьвятых, некалі адно з самых любімых дзятвой страшнае нястрашнае сьвята, бо можна дазволіць сабе адзін дзень спалохацца, калі ўсе астатнія дні гэткія абароненыя ды бясьпечныя.

Першая прыкмета панікі — чуткі. Кажуць, у адным з супэрмаркетаў чалавек усходняга выгляду набыў вялізную колькасьць цукерак, заплаціўшы наяўнымі 15 тысяч даляраў. Натуральна, дадае апавядач, атруціць. Кажуць, нейкія арабы жылі з расейкамі, зьехалі два дні таму, пакінуўшы ліст: мы вас любім, а таму тэрмінова зьяжджайце з гораду і не хадзіце у вялікія крамы.

Найбольш страху выклікаюць новыя выпадкі біятэрору: гэта, на жаль, ня чуткі і не фантастыка. Тэлебачаньне, пуртанскае, нібы ў мірныя часіны, не паказвае сапраўднага твару тае хваробы, але яго можна пабачыць на http://vatican.rotten.com/anthraxbaby/ (відовішча не для слабога страўніка і не для падлеткаў). І хоць ужо ёсьць выпадак захворваньня чалавека, які ня меў дачыненьня да пошты, галоўная ўвага скіраваная на лісты й бандэролі. Прэзыдэнт нашае бібліятэкі разаслаў мэмарандум: быць пільнымі, зьвяртаць увагу ў першую чаргу на заакіянскую пошту.

Практычная парада, што й казаць. Кшталту той, што прагучала колькі дзён таму ў ранішніх навінах: каб засьцерагчыся ад вірусу ў сваёй пошце, пакладзіце яе ў мікрахвалевую печку. Але таго не сказалі, што тэмпература зьнішчэньня вірусаў большая за тэмпературу запальваньня паперы. Гэтак і тут. Што рабіць, прыкладам, аддзелу, які ўзначальваю я і які займаецца міжнародным абменам — штодня атрымлівае пошту ад сваіх партнэраў з Індыі, Бразыліі, краінаў былога сацыялістычнага лягеру, з Аўганістану і Нямеччыны, Аўстраліі ды Конга? Краінаў гэтулькі багата, што я, ня надта моцны у геаграфіі, вымушаны быў замовіць мапу. Замовіў таксама для дзяўчыны, якая непасрэдна займаецца карэспандэнцыяй, адмысловыя пальчаткі, рэсьпіратар, акуляры. Мапа прыйшла наранцу. Іншае начыньне — не, бо... скончылася. Реч нечуваная, асабліва для такога кшталту прадукцыі. Відаць, замаўляюць усе, калі замову паабяцалі выканаць не раней як праз два тыдні.

Панікі няма, але нэрвы напружаныя настолькі, што, калі на адной са станцый мэтро ў адчыненыя дзьверы вагону нейкі бяздомны ўкідвае звычайнае сілкаваньне ад радыё, падскокваеш да столі, нямала разьвесяліўшы іншых, што папросту не пасьпелі зрэагаваць.

З пачуцьцём страху расьце і злосьць. Згадваеш службу ў войску, кантакты з чачэнцамі, таджыкамі, узбэкамі, кантакты малапрыемныя, ды што я хлушу — да нянавісьці. У сварках, бойках, штодзённым існаваньні ці змаганьні за тое існаваньне іх адрозьнівала ад рэшты аднапалчанаў поўная, жахлівая адсутнасьць тармазоў. У спрэчках з маскоўцамі ці прыбалтамі, да якой бы ступені ні даходзіла варажнеча, ты ведаў: ёсьць мяжа, якую нельга пераходзіць. І яны ведалі. Зусім інакш было з прадстаўнікамі мусульманскіх рэспублік: тут не ўяўляў, чаго чакаць, якой азіяцкай хітрасьці ці гнюсоты.

І ня трэба закідаць мне папрокі ў неталерантнасьці. Калі нехта мае права патрабаваць спыненьня вайны, спыненьня бамбаваньня, значыць, і я маю права патрабаваць помсты — за 11 верасьня, за восень сьмярцей і страху. Я стаміўся ад паліткарэктнасьці, ад паўпраўды, паўсловаў, паўмераў.

Што ня ўсе падобныя да талібаў, значэньня ня мае: і сваіх аднаверцаў з Узбэкістану яны клічуць няправільнымі мусульманамі; што б ужо сказалі пра беларускіх татараў! Пачуцьці, што праўда, значаць мала. Паніка, злосьць. Але пройдзе яшчэ трошкі часу, і тыя пачуцьці стануцца ўчынкамі. Вось гэта будзе сапраўды страшна.

**Лявон Юрэвіч, Нью-Ёрк**

Бразылія

## Маленькі бэн Ладэн

**Бацькі аднаго бразыльскага немаўляці хацелі назваць сына Усамам бэн Ладэнам — дык у тамтэйшым ЗАГСе адмовіліся рэгістраваць дзіця пад гэтым імем.** Бацька хлопчыка цяпер судзіцца зь мясцовымі ўладамі. Калі ён выйграе працэс, будзе мець права назваць сына як і хацеў — Усама бэн Ладэн Фэлісіяну дэ Алівэйра Суарэс.

# Войны трэцяга тысячагодзьдзя

Джэймз Адамз

Пачалася новая вайна. Яна ідзе ў віртуальнай прасторы. Яна хаатычная і жудасна дарагая. Зброя гэтай вайны даступная кожнаму, і ўсё больш ахвотных імкнецца далучыцца да агульнае бойкі.

Эпоха інфармацыі нясе рэвалюцыйныя зьмены, ейныя тэхналёгіі ўсё больш пранізваюць вайсковыя сыстэмы й абаронную інфраструктуру разьвітых краінаў. Калісьці шлях да перамогі пракладала фізычная канфрантацыя войскаў і ўзбраеньняў; сёньняшняя інфармацыйная зброя – гэта сродкі кампутарнага сабатажу, які ажыцьцяўляюць хакеры, што працуюць на дзяржаўныя або прыватныя кампаніі.

Дзесяць год пасьля "халоднай вайны" Злучаныя Штаты былі лідэрам як у галіне зброі атамнай, так і звычайнай. З іроніі лёсу, стаўка на інфарматызацыю ўсіх бакоў жыцьця зрабіла Амэрыку безабароннай перад кампутарнымі агрэсіямі. Іншыя краіны, якія ня могуць зраўнавацца са Штатамі ў вайсковай сіле, атрымалі магчымасьць узяць рэванш на палёх віртуальнага змаганьня.

Гэтаму спрыяе тое, што ўзброеныя сілы ЗША зараз пачалі актыўна карыстацца лічбавымі тэхналёгіямі для вырашэньня стратэгічных і апэратыўных пытаньняў — ад распрацоўкі праграмаў па выпрабаваньні зброі і для кіраваных праз кампутар разумных бомбаў да кампутарнага шыфраваньня ваеннай інфармацыі да стварэньня касьмічных сыстэмаў процірактэнай абароны. Усё большае выкарыстаньне інфармацыйных тэхналёгіяў для кіраваньня амэрыканскімі ўзброенымі сіламі выклікае ў ворагаў усё большую спакусу атакаваць ЗША ў кібэрпрасторы. Таму Вашыгтон мусіць неадкладна перагледзець стратэгію дзяржаўнай бясьпекі, што склалася да Інтэрнэту, за часамі "халоднай вайны".

### "МЕСЯЧНЫ ЛЯБІРЫНТ"

У сакавіку 1998 г. Міністэрства абароны ЗША выкрыла буйную антыамэрыканскую кампутарную акцыю пад кодавай назвай "Месячны лябірынт". Групоўка хакераў узламала некалькі сотняў сайтаў у *NASA*, Пэнтагоне і іншых дзяржаўных установах, а таксама ў прыватных унівэрсытэтах і лябараторыях. Віртуальныя зладзеі выкралі процьму інфармацыі з выкладкамі тэхнічных выпрабаваньняў, зьместам кантрактаў, шыфрамі, а таксама не сакрэтнымі, але істотнымі зьвесткамі пра вайсковыя пляны Пэнтагону.

Амэрыканская выведка распачала кібэрсьледзтва, каб знайсьці аўтараў "Месячнага лябірынту", але за тры гады мала што ўдалося высьветліць. Падобна, што агрэсія выходзіла з расейскага Інтэрнэту, але адказаць напэўна, хто яе фінансаваў і ці мае да гэтага дачыненьне дзяржава, немагчыма. Летась Вашынгтон паведаміў расейскім уладам тэлефонныя нумары, на якіх нібыта працавалі хакеры, але Масква адказала, што гэтыя нумары не працуюць, і сьцьвердзіла, што ніякай дадатковай інфармацыі пра атакі ня мае.

Тым часам агрэсія працягваецца. Хакеры пабудавалі "запасны ўваход" у інфільтраваныя сыстэмы і далей выкрадаюць інфармацыю. Сьледзтва ня мае пэўных зьвестак, хто стаіць за атакамі, якая яшчэ інфармацыя выкрадзеная, наколькі глыбока зламысьнікі ўвайшлі ў сеткі прыватных і публічных арганізацыяў і ці засталіся яшчэ якія закладзеныя міны, што чакаюць свайго часу, каб пашкодзіць безабароннае Сеціва.




Але "Месячны лябірынт" — гэта толькі кветачкі. Вайсковыя ўлады ЗША пачынаюць разумець, што параза ў віртуальных бойках можа выклікаць паразу ў сапраўдных войнах. Напрыклад, сыстэма супрацьпаветранай і супрацьракетнай абароны ня будзе вартая ўкладзеных мільярдаў даляраў, калі хакеры парушаць ейнае праграмнае забесьпячэньне і інфраструктуру. А праціўнікі гэтае сыстэмы могуць паралізаваць ейную працу ўжо на пачатковай стадыі разьвіцьця, увайшоўшы на сайты карпарацыяў, што яе праектуюць, і выклікаўшы дробныя зьмены, якія спраўкуюць вялізныя выдаткі й значнае спазьненьне.

Недастатковая падрыхтаванасьць амэрыканскіх узброеных сілаў да кампутарнай агрэсіі выявілася ў чэрвені 97-га, калі Генэральны штаб вырашыў правесьці экспэрымэнт пад кодавай назвай "Стараннае падслухоўваньне", каб выпрабаваць амэрыканскія кампутарныя сыстэмы абароны. Паводле сцэнару, разгараецца канфлікт на Карэйскім паўвостраве, і Вашынгтон мусіць хутка падтрымаць паўднёвакарэйскія сілы. 35 спэцыялістаў зь Дзяржаўнай службы бясьпекі (*NSA*) былі падзеленыя на чатыры каманды, зь якіх тры знаходзіліся ў ЗША, а адна на карабялі ў Ціхім акіяне. Яны павінны былі сымуляваць атаку хакераў, нанятых Паўночнай Карэяй, каб перашкодзіць амэрыканскай апэрацыі. Хакеры, згодна з правіламі гульні, ня мелі аніякага ўяўленьня пра амэрыканскія інфармацыйныя сыстэмы і павінны былі карыстацца толькі агульнадаступным кампутарным абсталяваньнем і хакерскімі праграмамі, зьмешчанымі ў Інтэрнэце (каля 30 тыс. Інтэрнэтстаронак зьмяшчаюць хакерскія праграмы, якія можна скапіяваць і выкарыстоўваць дзеля зьнішчэньня сыстэмаў абароны й крадзяжу зьвестак).

Два тыдні гэтыя чатыры каманды, гуляючы па вызначаных правілах, узломвалі паліцэйскія сыстэмы трывогі ў дзевяці гарадох ЗША. Экспэрымэнт засьведчыў, што добры хакер лёгкім рухам рукі можа адлучыць у горадзе электрычнасьць і спаралізаваць працу службаў ратаваньня. Стварыўшы ў той сымуляцыі паніку сярод насельніцтва й адцягнуўшы ўвагу Вашынгтону, агенты *NSA* атакавалі 41 тысячу (са 100 тыс. існых) кампутарных сыстэмаў Пэнтагону і адкрылі 36 тысячаў. Толькі дзьве такія спробы былі выкрытыя і папярэджаныя. Агенты-"хакеры" маглі свабодна вандраваць па сетцы, пустошачы ўсё на сваім шляху і зводзячы на нішто ўзаемны давер паміж карыстальнікамі. Напрыклад, яны змаглі выслаць аўтамабільныя фары эскадрыльлі зьнішчальнікаў *F-16*, якая замовіла партыю ракетаў; змаглі завярнуць транспарт паліва для самалётаў з дарогі на аэрадром у марскі порт. Яны здолелі таксама выклікаць крызыс узаемнага даверу ў сфэры камандаваньня й кантролю, які спаралізаваў усё. Загады галоўнакамандуючага выяўляліся фальшывымі, як і камунікаты ў СМІ пра крызыс, што пачаўся, як і інструкцыі ўладаў для насельніцтва. Так групоўка "хакераў", карыстаючыся агульнадаступнымі сродкамі, сарвала ў часе вучэньняў вайсковую апэрацыю ЗША.

У кастрычніку 1999 г. амэрыканцы правялі экспэрымэнт "Зорка ў зэніце", каб спраўдзіць, ці ўрок "Старанная праслухоўкі" не прайшоў дарма. На гэты раз "хакеры" атакавалі энэргетычныя сыстэмы амэрыканскіх вайсковых базаў і засыпалі службы ратаваньня тысячамі лжэвыклікаў. Экспэрымэнт засьведчыў, што зрухі ў лепшы бок, у параўнаньні з 97-м, ёсьць, але дзеяньні ўрадавых службаў па-ранейшаму слаба скаардынаваныя, а інфраструктура краіны безабаронная перад такімі атакамі.

### КІТАЙСКАЕ ПЕРАЎЗБРАЕНЬНЕ

Урад ЗША сьцьвярджае, што звыш 30 краінаў распрацоўваюць праграмы, прыдатныя для кампутарнай агрэсіі. Называюцца Расея, Кітай, Ірак з Іранам, а таксама некаторыя паплечнікі Штатаў, найперш Ізраіль і Францыя, ды новыя амбітныя гульцы, такія, як Індыя ці Бразілія.

Амэрыканцы лічылі вайну ў Пэрсыдзкай затоцы вялікай перамогай сваіх узброеных сілаў і пацьверджаньнем моцы ЗША. Але для астатніх краінаў гэты канфлікт стаўся ўрокам іншага кшталту: усялякія спрэчкі з ЗША канчаюцца паразай, калі дзейнічаць традыцыйнымі мэтадамі. Бюджэт Пэнтагону большы за абаронныя бюджэты дванаццаці наступных па моцы краінаў сьвету разам узятых. "Рэшта сьвету ўсьведамляе, што ня здолее перамагчы Амэрыку ў адкрытым супрацьстаяньні, але можна яе зьнішчыць ці проста моцна ёй нашкодзіць ускосным шляхам", — кажа намесьнік міністра абароны ЗША Арт Мані.

Мажлівасьці гэткага кшталту ўважліва вывучае Кітай, за якім, у сваю чаргу, заўзята цікуюць спэцслужбы Амэрыкі. Часткова адказ на пытаньне, як здабыць перавагу над Амэрыкай, дае кніга "Вайна бязь межаў", напісаная Чжао Лянам і Ван Сянсуем — палкоўнікамі кітайскага войска. Яны сьцьвярджаюць, што вайна ў затоцы была апошнім трыюмфам войскаў старога тыпу.

Аўтары даводзяць, Кітай ніколі не зраўнуецца з ЗША ў вайсковай сіле. Пэкін не паўторыць памылкі Масквы, якая зруйнавала сваю эканоміку, намагаючыся не адстаць у гонцы ўзбраеньняў. Затое кампутарная атака дае Кітаю магчымасьць перамагчы Штаты. Для гэтага Пэкін мусіць інвэставаць ва ўкараненьне новых тэхналёгіяў у войску. Назіральнікі з Пэнтагону называюць гэткія дзеяньні "кітайскім пераўзбраеньнем".

Кітай так агрэсіўна ставіцца да ЗША, бо падазрае, што сам стаецца аб'ектам кампутарнае агрэсіі амэрыканцаў. Увесь рыштунак і абсталяваньне, зробленае ў Штатах, скрупулёзна правяраецца на кітайскіх мытнях. Потым кітайскія тэхнікі прымаюць тавар і альбо не даюць заходнім спэцыялістам самастойна падлучаць абсталяваньне, альбо поўнасьцю кантралююць іхныя дзеяньні.

### ЦЭЛЬ – ПРЫВАТНЫ СЭКТАР

Два гады таму Расея цішком распаўсюдзіла сярод сяброў Рады Бясьпекі ААН праект трактату аб кантролі за гонкаю ўзбраеньняў у віртуальнай прасторы. ЗША і іхныя саюзьнікі палічылі гэтыя прапановы гістэрыкай эканамічна адсталай краіны.

Але па меры таго, як узмацняюцца атакі на кампутарныя сеткі ў ЗША, думка аб стварэньні сыстэмы бясьпекі ў Сеціве набывае ўсё большую папулярнасьць у Вашынгтоне. У часе "халоднай вайны" дзяржава кантралявала тэмпы разьвіцьця тэхналёгій, бо была замоўцам каля 70% усіх тэхналягічных распрацовак. Сёньня гэтыя лічбы зьменшыліся да 5%. Рэшту фундуе прыватны сэктар.

Такому перасоўваньню інвэстыцыяў у галіне высокіх тэхналёгіяў паспрыяла зьяўленьне новае зброі — пэрсанальнага кампутара. Забесьпячэньне для гэтай зброі, то бок усялякія хакерскія "прымочкі", што ўвесь час удасканальваюцца, можна бясплатна "скачаць" у Інтэрнэце. Дастаткова мець кампутар, выход у Сеціва і крыху тэхнічных ведаў, каб стацца віртуальным ваяром. Акрамя таго, у ХХ ст. патрэбна было ў сярэднім пятнаццаць гадоў, каб зброя прайшла шлях ад макету да сэрыі, а сёньня найноўшыя мадэлі кампутараў і праграмнае забесьпячэньне даступныя адразу пасьля зьяўленьня.

Выглядае іначай і фронт новай вайны. Для ЗША, якія ня маюць агрэсіўных суседзяў, абарона — гэта высыланьне войскаў туды, дзе штосьці пагражае амэрыканскім інтарэсам. Віртуальныя ж агрэсары, каб пазьбегнуць непасрэднага ўзброенага ціску з боку Белага Дому, ананімна атакуюць прыватныя кампутарныя сеткі.

Але Штаты і зараз не надаюць дастатковае ўвагі небясьпецы, што пагражае прыватнаму сэктару з боку хакераў, і пытаньню ўзаемадапамогі паміж грамадзянамі і ўрадам у галіне абароны. Часта закон не дазваляе ўладам інфармаваць грамадзтва пра патэнцыйныя пагрозы. Прадстаўнікі амэрыканскіх спэцслужбаў сьцьвярджаюць, што праграмнае забесьпячэньне з Расеі, Кітаю, Ізраілю, Індыі і Францыі часта мае "падвойнае дно" — яно бывае наўмысна прыстасаванае для зьбіраньня інфармацыі ды зьнішчэньня сыстэмаў аховы. Аднак прыватныя карыстальнікі ня маюць доступу да сьпісаў фірмаў, што займаюцца вытворчасьцю гэткае прадукцыі. А ФБР, што павінна бараніць грамадзтва і ад гэтай навалы, займаецца больш пошукам злачынцаў, бо ня мае тэхнічных магчымасьцяў і кадраў яшчэ й дзеля барацьбы зь віртуальнымі зладзеямі.

Атамныя бомбы, скінутыя на Хірасіму й Нагасакі, моцна ўразілі сьвет і выклікалі да жыцьця стратэгію далейшага пазьбяганьня атамных войнаў. Сьвет ведаў, што атамная атака на ЗША, СССР альбо кагосьці зь іхных саюзьнікаў выкліча імгненны адказ. Тая самая стратэгія ўзаемнага запалохваньня выкарыстоўвалася й у дачыненьні да хімічнай ды бактэрыялягічнай зброі. Так, Хусэйн не рызыкнуў ужыць хімічную зброю падчас вайны ў Пэрсыдзкай затоцы, бо яму б неадкладна адказалі тым самым.

Але абаронай стратэгіі ў віртуальным сьвеце ЗША ня маюць, як ня маюць і прававых абмежаваньняў у кібэрпрасторы — хакеры могуць атакаваць Амэрыку практычна беспакарана. Так, калі ў траўні 2000-га філіпінскі хакер разаслаў па сьвеце вірус *Love Letter*, аказаліся пашкоджаныя тысячы сайтаў *NASA*, на аднаўленьне якіх пайшло, паводле розных зьвестак, ад 4 да 15 млрд. даляраў, што ў катэгорыях звычайнай вайны адпавядае стратам, нанесеным дывановым бамбардаваньнем сярэдняга амэрыканскага гораду. Хакера ж арыштавалі, але пасьля выпусьцілі, бо філіпінскія крымінальныя законы не прадугледжваюць пакараньня за такога кшталту злачынствы.

### ЛЕКІ СУПРАЦЬ ВІРУСУ

Каб сплянаваць стратэгію абароны ў віртуальнай прасторы, патрэбна найперш сфармуляваць само азначэньне бясьпекі і знайсьці эфэктыўныя мэтады ейнага дасягненьня. У кібэрпрасторы перавагу будзе мець той, хто зразумее, што ўдалая кампутарная атака на прыватную інфармацыйную сетку гэткая ж дзейсная, як рэальны ўзброены напад.

Працяг на старонцы 7.

**ДЖЭЙМЗ АДАМЗ, амэрыканскі журналіст, што займаецца пытаньнямі абароны. Цяпер зьяўляецца кіраўніком інфармацыйнае агенцыі *United Press International*. Аўтар кнігі *The Next World War: Computers Are the Weaspons and the Front Line Is Everywhere* (1998)**

# Як абараніцца ад бяды трэцяга тысячагодзьдзя

# Інфэкцыі

**Індывідуальны падыход да вакцынацыі насельніцтва плянуецца ўвесьці на Беларусі. Спачатку шляхам тэставаньня будуць вызначацца індывідуальныя асаблівасьці імуннай сыстэмы кожнага чалавека, і толькі пасьля гэтага маюць рабіцца прышчэпкі. На сёньня ў Беларусі праводзіцца вакцынацыя супраць дзевяці небясьпечных хваробаў — дыфтэрыі, слупняку, коклюшу, поліяміеліту, адру, сухотаў, эпідпаратыту, краснухі й віруснага гепатыту.**



REUTERS

Калі XIX ст. было эрай адкрыцьця ўзбуджальнікаў інфэкцый, XX ст. — эпохай перамогі над самымі небясьпечнымі зь іх, то XXI-е абяцае стацца часам росквіту новых і "рэнэсансу" многіх старых інфэкцыйных хваробаў. У сьвеце мікраарганізмаў ёсьць свая гіерархія, і посьпехі мэдыцыны зьвязаныя пераважна з барацьбой супраць найбольш высокаарганізаваных зь іх — бактэрый. Гэтыя мікраарганізмы даволі лёгка выяўляюцца сучаснымі мэтадамі і паддаюцца ўзьдзеяньню хімпрэпаратаў. Менавіта яны ёсьць прычынай такіх хваробаў, як сухоты, малярыя, халера, тыф, чума, пнэўманія, дызэнтэрыя ды інш., якія ў папярэднія гістарычныя эпохі абумоўлівалі кароткасьць чалавечага веку. Зьяўленьне супраць іх у XX ст. эфэктыўных сродкаў дазволіла павялічыць сярэднюю працягласьць жыцьця з 30—40 да 60—70 год. У бедных (трапічных) краінах, дзе разнастайныя інфэкцыі буяюць да сёньня, большасьць людзей не перажывае 40—45 год. У цывілізаваных краінах інфэкцыі як прычына сьмерці адышлі на другі плян пасьля сардэчна-сасудзістых захворваньняў, анкалёгіі і траўмаў, а сярод усіх заразных хваробаў наперад вылучыліся вірусныя. Вірусы — драбнейшыя і больш прымітыўныя за бактэрыі, але "вылавіць" іх значна цяжэй. Галоўная праблема ў тым, што супраць многіх зь іх няма эфэктыўных сродкаў. Вакцыны супраць воспы і поліяміеліту (што дазволілі ліквідаваць гэтыя хваробы) — хутчэй вынятак з правілаў, бо вірусы лёгка трансфармуюцца, зьмяняюць свой "твар", і вакцына іх ужо "не пазнае". У першую чаргу гэта тычыцца самай распаўсюджанай інфэкцыі чалавека — ВРЗ (вострае рэсьпіраторнае захворваньне) і самай небясьпечнай — СНІДу, а таксама грыпу і віруснага гепатыту, якія хоць і маюць адпаведныя вакцыны, але іхная эфэктыўнасьць пакідае жадаць лепшага. За апошнія 30 год колькасьць хворых на ВРЗ у Беларусі вырасла амаль удвая, расьце й колькасьць хворых на герпэс, гепатыт і, вядома, на СНІД. Калі герпэсам ці ВРЗ можна перахварэць 2 разы ў сэзон і пражыць свае 100 гадоў, то, "падчапіўшы" СНІД або гепатыт С, так доўга не працягнеш.

Аднак гэтым праблема інфэкцый не вычэрпваецца. Прыцягвае ўвагу яшчэ адзін, самы "модны" ўзбуджальнік хваробаў — прыён. Вядома, існавалі прыёны і раней, аднак, па-першае, яны "маўчалі", а па-другое — мала было магчымасьцяў іх "злавіць", бо гэта нават не мікраарганізмы (у іх няма ДНК ці РНК), а простыя бялкі, здольныя пранікаць у чужую клетку і зьмяняць яе біяхімічныя працэсы. Сусьветны рэзананс праблема атрымала ў сувязі з эпідэміяй "каровінага шаленства" ў Брытаніі, зь якім зьвязваюць чалавечую хваробу Кройцтфэльта-Якаба — прагрэсуючую дыстрафію мозгу зь лятальным зыходам. Чалавек заражаецца, зьеўшы мяса хворай каровы, прычым звычайная кулінарная апрацоўка, як і большасьць антысэптыкаў, на прыёны ня дзейнічае, а сьмерць настае праз 4—5 год ад першых прыкметаў немачы.

Аднак і добра вывучаныя "старыя" інфэкцыі яшчэ рана сьпісваць у архіў, як тое сталася з натуральнай воспай. Прагрэс уласьцівы ня толькі людзкой супольнасьці, але й сьвету мікраарганізмаў. Мікробы і вірусы пад узьдзеяньнем вонкавых фактараў, у першую чаргу чалавека, безупынна зьмяняюцца — узьнікаюць новыя сэратыпы, штамы, разнавіднасьці. Зьяўляюцца нават новыя інфэкцыі, прыкладам, хвароба легіянэраў, разнастайныя гемарагічныя ліхаманкі — Эбала, Марбурга, Ханта, Вэнэсуэльская ды інш. За апошнія 30 год выяўлена 20 раней невядомых заразных хвароб. Пашыраюцца рэдкія — барэліёз Ляйма, ротавірусны гастраэнтэрыт, гемофілюс інфлюэнца В, а добра вядомыя ўсё горш паддаюцца ўзьдзеяньню антысэптыкаў і антыбіётыкаў і робяцца ўсё больш патагеннымі і небясьпечнымі. У апошнія гады пачаўся рост захворваньня на сухоты (нават у багатых краінах Захаду), а таксама на вірусны гепатыт, герпэс, ВРЗ. На постсавецкай Беларусі да іх далучаюцца і "эпідэміі войнаў і рэвалюцый" — пранцы, вошы, кароста, энтэрабіёз, краснуха, колькасьць захворваньняў на якія вырасла ў 6—7 разоў у параўнаньні з папярэднімі дзесяцігодзьдзямі. Асаблівасьць сучаснага грамадзтва — вялікая мабільнасьць насельніцтва і разнастайныя кантакты значных людзкіх масаў — спрыяюць распаўсюджваньню і захаваньню інфэкцыяў, асабліва тых, што выяўляюцца не адразу, а спакваля (г.зв. марудныя інфэкцыі). Таму барацьба з гэтымі хваробамі, нягледзячы на ўсе посьпехі эпідэміялёгіі і фармакалёгіі, у агляднай будучыні застанецца адной з галоўных мэдычных праблемаў. Праўда, сьпісваць усё на мэдыцыну было б ня варта, бо на стан здароўя ў першую чаргу ўплываюць *экалягічныя, эканамічныя і сацыяльна-псыхалягічныя* фактары, а толькі потым узровень мэдычнай дапамогі. Акрамя патагенных мікраарганізмаў, якія сустракаюцца амаль паўсюдна, ёсьць яшчэ чалавечы арганізм, а ён можа і не захварэць, бо мае адмысловыя абарончыя сыстэмы, што завуцца імунітэтам. Дык вось, верагоднасьць захварэць у сярэднестатыстычнага беларуса значна большая, чым у швэда ці немца, бо ягоны імунітэт зьніжаны якраз дзякуючы пералічаным вышэй прычынам. "І што тады рабіць?" — узьнікае натуральнае пытаньне ў любога беларуса, які не зьбіраецца заўтра паміраць. На жаль, яму не пад сілу "адмяніць" Чарнобыль, "падняць" эканоміку ці зьмяніць маральна-дэструктыўны клімат у краіне. Ён можа крыху перайначыць сябе ды свае звычкі, а ў прыватнасьці — харчаваньне. Для падтрымкі імунітэту вельмі важна кожны дзень мець у рацыёне дастаткова сырой садавіны і гародніны. І пажадана не імпартнай, а сваёй, айчыннай (вядома, ня з "зоны"). Прычына ня столькі ў патрыятызьме — у "нашых" прадуктах захоўваецца больш карысных рэчываў і яны лепш засвойваюцца нашымі "тутэйшымі" страўнікамі. Так што між эквадорскіх бананаў, іранскіх фігаў ды мараканскіх апэльсынаў не забывайцеся на рэдзьку, моркву, капусту, гарбузы, буракі, часнык, цыбулю, кроп ды многія іншыя Богам і прыродай дадзеныя нам у харч расьліны, каб здаровыя былі ды каб ня ўмёрлі...

**Васіль Аўраменка**

## САМАЯ БЕЛАРУСКАЯ ХВАРОБА

### ЛЕЙКАСПАНГІЁЗ МЁТЧЫ

**У Беларусі зарэгістраваная інфэкцыйная хвароба, якая не сустракаецца ні ў адной іншай краіне сьвету. Яна, як і "каровіна шаленства", выкліканая прыёнамі. Яшчэ ў 70—80-я гады акадэмік Вацякоў і прафэсар Протас ў Барысаўскім раёне апісалі выпадкі своеасаблівай дэгенэрацыі сьпіннога мозгу, якія былі названы аміятрафічным лейкаспангіёзам. Хворыя паходзілі зь некалькіх суседніх паселішчаў, а найбольш зь вёскі Мётчы. На думку беларускіх дасьледчыкаў, прычынай хваробы былі прыёны, што траплялі людзям ад авечак (там быў буйны цэнтар авечкагадоўлі). У 1990 г. была выдадзеная нават манаграфія аб новай хваробе, але шырокага розгаласу яна ня мела, бо вучоныя ня здолелі ў "чыстым" выглядзе вылучыць і апісаць прыёны і "стоадсоткава" даказаць іхную віну ў лейкаспангіёзе. У наступныя гады разам з заняпадам беларускай авечкагадоўлі зьнікла і праблема "беларускіх прыёнаў" ці, як яе пасьпелі назваць, хвароба Мётчы. Ці не пайсьці гэтым шляхам і брытанцам: паставіўшы крыж на гадоўлі буйной рагатай жывёлы, прыкончыць і свае прыёны? А калі сур'ёзна, дык прыёнавыя хваробы сёньня самыя нязьведаныя з усіх існых інфэкцыяў.**



# Войны трэцяга тысячагодзьдзя

Працяг са старонкі 5.

Сапраўдная абарона азначае прадухіленьне атакаў, пакуль да іх яшчэ не дайшло. Вашынгтон мусіць даць зразумець усяму сьвету, што кампутарная атака на амэрыканскі аб'ект будзе разглядацца як вайсковая акцыя і выкліча адпаведныя наступствы. Усе мусяць ведаць, што ЗША будуць рэагаваць на сам факт нападу, не зьвяртаючы ўвагі, ці іх атакуюць атамнай бомбай, ці кампутарным вірусам.

"Месячны лябірынт" паказаў Вашыгтону, як цяжка знайсьці доказы, каб абвінаваціць нейкую канкрэтную групоўку ці краіну ў віртуальным злачынстве. Выкрыць злыя сілы ў Сеціве нялёгка, бо існуе магчымасьць атакаў зь некалькіх замаскаваных месцаў адразу. Так, у лютым 98-га, калі зноў павялічылася напружанасьць вакол Іраку, Пэнтагон выкрыў уламаньне да сыстэмаў Міністэрства абароны. Усе атакі, пад агульнай назвай "Золак", складалі ўражаньне, што іх мэтай быў збор інфармацыі пра пляны супраць Багдаду і стварэньне збояў у рабоце сыстэмаў кіраваньня, кантролю і аналізу. Здавалася, што за хакерскай акцыяй стаяў сам Ірак, аднак хакеры працавалі ў Абу-Дабі — сталіцы Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Амэрыканцы паслалі адмысловую каманду, якая абшукала будынак, дзе меліся знаходзіцца іракскія дывэрсанты. Але знайшлі толькі сэрвэры. Больш за тое, адрас у Абу-Дабі быў фальшывым, яго падсунулі самі хакеры — два вісусы з Каліфорніі, якія, натуральна, ня мелі нічога супольнага з Іракам.

Каб быць абароненымі ад кампутарнае агрэсіі, амэрыканскія палітычныя эліты павінны вырашыць шэраг юрыдычных і маральных пытаньняў. Напрыклад, дзяржава мае права ўжыць сілу толькі ў адказ на агрэсію на ейнай тэрыторыі. Але незразумела, ці тычыцца гэта інфармацыйнай вайны. Калі б, напрыклад, Кітай атакаваў узімку чыкагскія цеплаэлектрацэнтралі, ці мела б права Амэрыка ў адказ сапсаваць кампутарнае забесьпячэньне дамбаў, што рэгулююць узровень вады ў Хуанхэ? Ці дапушчальна з пункту гледжаньня права, маралі і палітыкі ўжываць рэальную зброю ў адказ на віртуальную агрэсію?

Шукаць кампутарных хуліганаў вельмі складана, бо хакер лёгка можа зрабіць уражаньне, што ён зь Лёндану, а на самай справе будзе знаходзіцца ў Бразыліі, а да Штатаў "дабірацца" праз Маскву і Антвэрпэн. Напрыклад, каб знайсьці крыніцу распаўсюджваньня вірусу, патрэбна аўтарызацыя з кожнага кантрольнага пункту, праз які ён праходзіў. Марудасьць гэтае працы пакідае мала надзеі на затрыманьне злачынцы і своечасовую рэакцыю. Таму спэцслужбы мусяць палепшыць мэтады сваёй работы і стан крыніцаў інфармацыі. Патрэбны новыя спосабы інфармаваньня прыватных асобаў і групаў, што маюць дачыненьне да кібэрвойнаў.

Падчас "халоднай вайны" Амэрыка, каб узброены канфлікт не парушыў забесьпячэньня краіны нафтай, стварала стратэгічныя запасы, разгортвала сілы хуткага рэагаваньня і падпісвала адпаведныя міжнародныя пагадненьні. У выпадку канфлікту амэрыканцы разьмяшчалі ў стратэгічных пунктах свае дэсанты, як гэта здарылася ў часе "Буры ў пустыні". Такая ж схема павінна быць распрацаваная і ў дачыненьні да інфармацыйных сетак, якія мусяць мець рэсурсы для працы ў надзвычайных умовах. Акрамя таго, Амэрыка павінна мець і наступальныя кампутарныя ўзбраеньні, каб нанесьці ўдар у адказ па любой краіне, дэстабілізаваўшы ейныя інфармацыйныя мажлівасьці і парушыўшы яе паліва- й водазабесьпячэньне. І абавязкова патрэбна канчаткова вырашыць, у якіх выпадках такую зброю можна ўжываць, а ў якіх — не. Змаганьне з кампутарным тэрарызмам ня будзе эфэктыўным без супрацоўніцтва з саюзьнікамі, абмену інфармацыяй. Так, у часы "халоднай вайны" Амэрыка з паплечнікамі распрацавала сыстэму папярэдняга апавяшчэньня, што берагла ўсе краіны *NATO* ад атамнага ўдару. Сёньня ж любы кампутарны вірус за тыя ж колькі хвілінаў, што й ракета, можа лёгка дасягнуць тэрыторыі Амэрыкі зь любога месца сьвету, бо надзейнай абароны кампутарныя сыстэмы Захаду сёньня ня маюць.

Нават калі Вашынгтон вырашыць распачаць пэўныя дзеяньні па стварэньні і ўвядзеньні ў жыцьцё нейкай стратэгіі супрацьстаяньня інфармацыйнай пагрозе, сыстэмы абароны змогуць працаваць вынікова толькі ва ўзаемадзеяньні з прыватным сэктарам Амэрыкі. Патрэбна новае партнэрства паміж палітыкамі і асяродкамі "хай-тэк", што лепей арыентуюцца ў такіх пытаньнях. Інфармацыйная слабасьць ЗША — гэта супольная праблема, і вырашаць яе трэба разам.

Адміністрацыя Буша мае шанцы надаць новае дыханьне цэламу кірунку ў абароне краіны. Пагроза кампутарнай агрэсіі выклікае патрэбу стварыць сыстэму, здольную рэагаваць у поўнай меры на гэткія выклікі. Калі ж адміністрацыя застанецца ў часах "халоднай вайны", Амэрыка можа згубіць свой статус як у віртуальным, так і ў рэальным сьвеце.

**Пераклаў А.Х.**

# Тыповыя памылкі

**У Інтэрнэце беларуская мова пачуваецца вальней, як у любым СМІ. Пераважная бальшыня апазыцыйных сайтаў мае беларускую вэрсію. Правапіс — пераважна тарашкевіца.**

**Але адсутнасьць цэнзурнага нагляду і процістаўленьне сябе афіцыёзу як у палітыцы, гэтак і ў мове — ня кажучы пра звычайнае невуцтва і неахайнасьць, якіх таксама, на жаль, не бракуе, — прыводзяць да моўных дзівацтваў.**

**Разгледзім дзеля прыкладу сайт "Хартыі'97". З пачатку кастрычніка ён не працуе, але абяцае вось-вось аднавіцца. Рытуальных пахвалаў ня будзе: усе мы згодныя і ў тым, што пісаць па-беларуску само па сабе рэч добрая і ўхвальная, і ў тым, што мова "Хартыі'97" не найгоршая з магчымых. Засяродзімся, аднак, на тым, што робіць яе не найлепшаю. Матэрыял для аналізу – некалькі дзясяткаў артыкулаў, выбраных зь беларускае часткі сайту.**

**Гэтыя заметкі не прэтэндуюць на вычарпальнасьць. Папершае, сустракаецца багата звычайных памылак друку, якія зьявіліся ад няўважлівасьці (ці адсутнасьці) карэктара. На іх спыняцца ня будзем і нават не заўсёды будзем адзначаць усе памылкі, заўважаныя ў цытаваным урыўку. Па-другое, у газэце месца мала.**

**Ніжэй будзем кіравацца найбольш папулярнай на сёньня вэрсіяй клясычнага правапісу, кадыфікаванай Вінцуком Вячоркам ("Правапіс. Спроба сучаснае нармалізацыі" // "Спадчына", 1995, № 5, с.247–288).**

Пачнем з фразы, якая стаіць на кожнай старонцы сайту:

| Чытаем: | Трэба: |
|---|---|
| Паважаныя калегі, нагадваем вам, што *пад час* выкарыстаньня матэрыялаў сайта спасылка на прэсавы цэнтар Хартыі'97 абавязковая. | "*Падчас*" мае толькі часавае значэньне і не заўсёды ўзаемазамяняецца з "*пры*". Можна падумаць, пакуль я выкарыстоўваю гэты матэрыял, спасылка абавязковая, а як толькі яго адклаў убок — перастае быць абавязковай. Лепш: "*пры выкарыстаньні...*". |

## СКЛОНЫ

Тыповая хіба — давальны склон (замест меснага) пасьля прыназоўніка "*па*". Напрыклад:

| Памылкова | Слушна |
|---|---|
| ...сканчэньне працы *па стварэньню* сумеснага банка... | *...па стварэньні...* |
| Міжнародная місія *па абмежаванамуназіраньню* за выбарамі | *...па абмежаваным назіраньні...* |
| *...па абвінавачваньню...* | *...па абвінавачаньні...* (не "*абвінавачваньні*", бо гэта не працэс). |
| Так адбылося, напрыклад, *па эпізоду* з выдачай крэдыту фірме "БелОСТ"... | *...па эпізодзе...* (а лепш – *у эпізодзе*) |
| *Па запрашэньню* Кангрэса ЗША... | *...па запрашэньні* (часам: *на запрашэньне*) ... |
| Праваахоўныя органы Беларусі не прадпрымаюць фактычна ніякіх дзеяньняў *па пошуку* Ганчара й Красоўскага, а таксама *выкрыцьцю* арганізатараў і выканаўцаў гэтага злачынства. | *...па пошуку... і выкрыцьці...* (або: *дзеля пошуку... і выкрыцьця...*; або яшчэ прасьцей: *каб знайсьці... і выкрыць...*) |
| ...аб прызначэньні эксп[э]ртызы *па вызначэньню* прыналежнасьці біялягічных рэшткаў... | *...па вызначэньні...* (магчыма: *для вызначэньня прыналежнасьці; каб вызначыць прыналежнасьць*) |

Канчаткі роднага склону (*-а* ці *-у*) заўсёды становяць праблему. Падрабязна разьбіраць тут адпаведныя правілы не выпадае, але бясспрэчна, што з *-у* пішуцца, у прыватнасьці, абстрактныя, зборныя, працэсуальныя назоўнікі, а з прадметных, як правіла, "падзельныя", г.зн. назвы такіх рэчаў, частка якіх можа называцца тым жа словам, што і цэлае; паводле Язэпа Лёсіка, вельмі часта гэты канчатак прымаюць назоўнікі запазычаныя. Зірнем на прыклады:

| | |
|---|---|
| ...здымкі *фільма...* | *...фільму...* (падзельны назоўнік) |
| ...з дапамогай *падмана* і голага *папулізма...* | *...падману... папулізму...* (абстрактныя назоўнікі) |
| ...рэспубліканскага *маштаба...* | *...маштабу...* (абстрактны назоўнік) |
| ...колькі дапускаецца *брака...* | *...браку...* (зборны назоўнік) |
| ...чатырох удзельнікаў леташняга *Марша* Свабоды... | *...маршу...* (працэсуальны назоўнік) |

Яшчэ адна характэрная памылка, зьвязаная са склонамі:

| | |
|---|---|
| Дзякуючы *вашае* "працы"... | Поўныя канчаткі прыметнікаў ("*вашае*") ужываюцца толькі з родным склонам: напр., "высокая ацэнка *вашае* працы". А тут склон давальны, таму трэба пісаць "*вашай*". |

## ТРАНСКРЫПЦЫІ ІМЁНАЎ УЛАСНЫХ

У наркамаўцы ёсьць практыка адаптацыі расейскіх транскрыпцыяў, у новаклясычным правапісе — тэндэнцыя набліжацца да гучаньня арыгіналу. Аднак усе варыянты беларускага правапісу забараняюць падвойныя зычныя ў запазычаньнях (сьпіс выключэньняў вельмі кароткі), таму мусіць быць ня *Рассэл-Джонстан* (як на "Хартыі"), а *Расэл-Джонстан*, не *Каддафі*, а *Кадафі*. Калі ж узяць любы канкрэтны корпус правілаў — напрыклад, той жа "Правапіс. Спроба сучаснае нармалізацыі", — то лёгка знайсьці і іншыя несупадзеньні: напр., *Ханс*-Георг Вік (замест *Ганса*).

**АД РЭДАКЦЫІ**

**Бескультурнасьць мовы — прыкрая зьява. Дэмакратычныя палітыкі ня могуць разьлічваць на посьпех, не навучыўшыся пісаць і гаварыць культурна.**

## ЛІШНЕ СКЛАДАНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ СЛОВЫ

Часам складаныя замежныя словы аўтарам не даюцца. Клясычны тэст на культуру мовы — слова "*беспрэцэдэнтны*", якое на сайце часам пішацца праз два "*н*": "*беспрэцэндэнтны*". У слове "*скампрамэнтаваць*" таксама лішняе "*н*". Мабыць, яго забралі ў слова "*канфідэнцыйны*", бо чытаем: "*канфідыцыйныя звесткі*". Цікавы выпадак са словам "*скандаль*". Мяккае "*л*" тут — хутчэй за ўсё, сьведчаньне польскага ўплыву, бо гэта па-польску *skandal*. А па-беларуску, як піша В.Вячорка, "фіналі на *-al*, *-ol*, *-ul* неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду часьцей перадаюцца зь цьвёрдым [*л*]: *авал, карнавал, шквал, кімвал, інтэрвал, штурвал...* (але *сымбаль, баль, фэстываль, гандаль, буталь...*)"

Пасьля гэтага ня дзіўна, што слуханьне чарговае крымінальнае справы ў падачы "Хартыі" завяршылася "*скандалям*" — а не "*скандалем*", як мусіла б быць, калі б гэтае слова ўсё ж канчалася на мяккае "*л*" (яканьне ў пасьлянаціскных складох на пісьме не пазначаецца).

Проста розныя памылкі і хібы:

| | |
|---|---|
| *...падцьвердзіць...* | *...пацьвердзіць...* Тут прыстаўка "*па*", а ня "*пад*". |
| *...меньшы... ...паменьшыў...* | *...меншы...* ...паменшыў... У адрозьненьне ад рас. "*меньший*", у нас тут "*н*" цьвёрдае. |
| *...памягчэньня...* | *...памякчэньня...* |
| ...па... касацыйнай *скарге* адваката | Месны склон ад "*скаргі*" — "*скарзе*". Памылка, выкліканая ўплывам расейскае марфалёгіі. |
| ...не хапала *сідзячых* месцаў... | *...сядзячых...* |
| ...выпадак з *рэчывымі* доказамі... | *...рэчавымі...* |
| ...*чыйсьці* асабістыя амбіцыі... | *...чыесьці...* (альбо: *нечыя*) |
| *...наўрацьці...* | *...наўрад ці...* А варыянту "*наўрацьці*" нават у Янкі Станкевіча ў слоўніку не знайшлося. |
| ...некалькі *баяк* і вершаў... | *...баек...* Тое самае, што і са "*скандалям*". На пісьме яканьне ў пасьлянаціскных складох не пазначаецца. |
| ...прадставіўся *Андрэям* Жарнасекам... | *...Андрэем...* — тое самае. |
| *...вяршынства* закону.. | *...вяршэнства...* |
| *...выіграла...* | *...выйграла...* |
| Беларускаму *баку* належыць у статутным фондзе кожнага СП па 51%. | У давальным склоне — *боку* (але ў месным — [на] *баку*). |
| *...відэёзапіс...* | *...відэазапіс*. Ё устаўляецца пасьля "*і*", "*ы*", а тут — "*э*". |
| *...спадканьняў...* | *...спатканьняў...* |
| *...абскаржваць...* | *...абскарджваць...* |
| *...расьледваньне...* | *...расьсьледаваньне...* |
| *...дасьледваньне...* | *...дасьледаваньне...* |
| У хуткай *будучыне...* | У... *будучыні...* (а лепш: *неўзабаве*). |
| У судзе Ленінскага раёну *Берасьці...* | *Берасьця*, бо ніякага роду |
| ...у адпаведнасьці з *праэктам...* | ...з *праектам...* |
| ...крымінальнага перасьледу сына вядомага магілёўскага *праваахоўніка* Сяргея Абадоўскага Зьміцера... | *Праваахоўнікі* — гэта ў форме з дубінкамі, а Абадоўскі — *праваабаронца*. І ня *Зьміцера*, а *Зьмітра*, як *вецер* — *ветру*, *ветрам* і г.д. |
| *...выдвінутыя* супраць яго абвінавачваньні... | *...Высунутыя* супраць яго *абвінавачаньні...* Не "*абвінавачваньні*" — бо падкрэсьліваецца прадметнасьць, а не працэсуальнасьць: тое, што высунута, а ня тое, як яно рабілася. |
| *Напрацягу некалькі* гадоў... | *На працягу* (альбо: *цягам*) *некалькіх* гадоў... |
| ...гісторыя з прыпыненьнем будоўлі новага офісу і невяртаньнем *грошаў...* | *Грошай*: канчатак -аў тут магчымы, толькі калі гаворка ідзе пра манэту "грош". |
| Але *ў адрозьненьні* ад байца САХРу... | *...у адрозьненьне...* (а атрад хуткага рэагаваньня — зводны; таму — ЗАХР) |
| "Аб скаргах Ганчарыка Ў.І., *Паганяйла* Г.П., Гулака А.М. ...і аб *высьвятленьні вынікаў выбараў* Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь" | У ініцыялах ня можа быць "ў" (нескладовага), бо яно выступае толькі не пад націскам, а на ініцыялы націск падае. Што такое "*высьвятленьне вынікаў выбараў*" — мне засталося няясным, але гэта прэтэнзія не да журналістаў, а да Цэнтравыбаркаму, які прыняў такую пастанову. Апошняе тычыцца і скланеньня прозьвішча Гары *Паганяйлы*. |
| *...бясьледна...* | *...бясьсьледна...* |
| ...з *прозьбаю...* | ...з *просьбаю...* |
| ...сярод тых, хто падпісаў Зварот — больш *за ста сямідзесяці* (што больш паловы) дэпутатаў Парлямэнту, *пры чым* ня толькі швэдзкія, але й замежныя... | Ці "*больш ста сямідзесяці*", ці (лепш) "*больш за сто семдзесят*". "*Прычым*" (калі гэта злучнік, як у нашым выпадку) пішацца разам. |

Памылкі на звонкасьць-глухасьць зычных і асыміляцыю:

| | |
|---|---|
| *...безпраўныя...* | *...бяспраўныя...* |
| *...безпадстаўнасьць...* | *...беспадстаўнасьць...* |
| *...швэцкіх...* | *...швэдзкіх...* |
| *...з галянскай вёскі...* | *...галяндзкай...* |
| *...пакашчыкі...* | *...паказчыкі...* |
| *...адкашчыкі...* | *...адказчыкі...* |
| *...адзьдзяленьня...* | *...аддзяленьня...* На сутыку з прыстаўкай на *-д* "*-дз*" не падвойваецца. |
| *...сьледства...* | *Сьледзтва*, калі ўжо тарашкевіцай (на сайце "сьледства" сустракаецца спрэс, але "гарадскі" пішацца цераз "*з*", хоць артаграма тут адна. |
| *...безперарыўных...* | *...бесьперапынных...* |

Тыповыя памылкі ў дзеясловах:

| | |
|---|---|
| Бо Кудзінаў, з улікам амністыі, *адседзіў* больш гэтага тэрміну, то ўжо на наступным тыдні можа быць *выпушчаным* на свабоду. | "*Адседзеў*"; "можа быць *выпушчаны*" (а лепш: яго *могуць выпусьціць*); *больш за гэты тэрмін*. |
| ...прапанаваў суду *разгледзіць* магчымасьць увогуле спыніць справу былога прэм'ер-міністра. | "*Разгледзіць*" — гэта трэцяя асоба адзіночнага ліку будучага часу абвеснага ладу (*ён разгледзіць гэта заўтра*), а тут трэба неазначальная форма — "*разгледзець*". |
| *...знайдзены...* | *...знойдзены...* |
| ...экспэртызы, якія *ляглі* ў аснову абвінаваўчага заключэньня... | Лепш будзе "*леглі*". Хоць форма "ляглі" сустракаецца поруч зь "леглі" і ў клясыцы, і ў сучасных слоўніках. |
| Ад вынікаў гэтых перамоваў будзе *залежыць* і далейшае разьвіцьцё падзеяў. | ...будзе *залежаць*. Досыць пашыраная памылка. "*Залежыць*" — гэта 3-я ас. адз.л. цяперашняга часу. |
| Міхаіл Чыгір ...паўтарае, што ні ў чым не вінаваты і *пагадзіцца* толькі з апраўдаўчым прысудам. | "*Пагадзіцца*" — гэта неазначальная форма, а 3 ас. адз.л. буд. ч. — "*пагодзіцца*". |
| *...адрозьневаюцца...* | *...адрозьніваюцца...* |
| *...сканчваючы...* | *Канчаючы*, *сканчаючы*, *скончваючы* (што далей, то больш груvастка). |

Вылучаецца шэраг памылак на яканьне:

| | |
|---|---|
| у *нячалавечых* умовах | *...нечалавечых...* |
| *не* рухаюцца і *не* дыхаюць; *не* зьехалі | *...ня...* |
| тым *не* менш | *...ня...* |

Памылкі на цьвёрдасьць зычных у запазычаньнях:

| | |
|---|---|
| *...абанентаў...* | *...абанэнтаў...* |
| *...аператара...* | *...апэратара...* |
| ...на *перспэктыву...* | ...на *пэрспэктыву...* |
| *...дызельнага...* | *...дызэльнага...* |

У тым ліку — на гіпэраканьне:

| | |
|---|---|
| *...сыстаматычным...* | *...сыстэматычным...* |
| *...тэндар...* | *...тэндэр...* (як у бальшыні астатніх выпадкаў у гэтым артыкуле.) |
| *...імпічманта... ...дакуманта...* | *...імпічмэнту... ...дакумэнту...* |

Памылкі на мяккі знак: найчасьцей ён проста выпадае, а часам устаўляецца дзе ня трэба.

| | |
|---|---|
| *...сьпецыяльна... ...спецыяліста...* | *...спэцыяльна... ...спэцыяліста...* |
| *...пусцілі... ...ўмясціла... ...перайсці...* | *...пусьцілі... ...умясьціла... ...перайсьці...* |
| *...начэльнік Следчага* камітэта МУС рэспублікі... | *Начальнік* ён. З польскай перакладалі, ці што? А камітэт, напэўна, *сьледчы*. |
| ...без дазволу *каманьдзіра* атраду... | *...камандзіра...* |

## ПАМЫЛКІ НА МЯККІ [Л']

Памылкі на мяккі [л'] зводзяцца да страты гэтае мяккасьці пад уплывам наркамаўскай або расейскай нормы: *лаўрэат, балатавацца, запланаванай, лаяльнасьць*. Часам гэта можа быць проста неахайнасьць — так, у адным тэксьце сустракаюцца формы "*балатавацца*" і "*парлямэнцкія*". Анэкдатычны выпадак — гіпэрнармальнае напісаньне "*дакლядчык*". Гэтага, праўда, трэба было чакаць — напісаньні зь мяккім "л" дагэтуль досыць слаба падтрымліваюцца ў жывым маўленьні.

## ПАМЫЛКІ НА -СІЯ, -ЗІЯ

У Вячоркі ёсьць выразнае правіла:

"Пасьля *с, з* пішацца *і* ў канцоўках словаў на *-зій-*, *-сій-* (г.зн. у канцы словаў на *-зія, -сія, -зіё-, -сіё-, -зію-, -сію-*), *-зіў-, сіў-, -зізм, -сізм, -зіст, -сіст:*

*гімназія, тэлевізія, агрэсія, Зія уль-Хак; тэлевізійны, пэнсійны, андалюзійскі, мансійскі* (але *расейскі*); *мальтузіянскі, энтузіязм, пасіянарны, сымпозіюм, Цэльсіюс, эксклюзіў, пасіў, агрэсіўны, марксізм, параксізм, гімназіст...*"

А на сайце пануе разнабой. Поруч зь "*місіямі*" і "*ілюзіямі*" (што правільна) сустракаем "ад *місыі* АБСЭ", "па *вэрсыі* сьледства", у адным тэксьце бачым "*ліцэнзію*" і "*ліцэнзыі*", "*непрафэсыяналамі*", "на ўрадавай валютна-крэдытнай *камісыі*", "старшынём Цэнтральнай выбарчай *камісыі*", "*прафесыянальная*"...

## [ЭКС]-ПРЭМ'ЕР-МІНІСТАР

Вельмі не пашанцавала з пасадаю Міхаілу Чыгіру. Ён экс-прэм'ер-міністар. Але "экс" журналісты пішуць то праз злучок, то асобна; *прэм'ер* ператвараецца то ў *прам'ера*, то нават у *прамьера*, міністар то губляе, то знаходзіць устаўное "*а*"... Але яшчэ мудрэй са Зьмітром Завадзкім. То ён робіцца *Завацкім*, а то нават *Звадзкім*; ува ўскосных склонах яго рэгулярна пішуць *Зьміцерам*, хоць трэба — *Зьмітром*.

# “Хартыі”

## ПАЛЯНІЗМЫ І РУСІЗМЫ

| | |
|---|---|
| Хамайда выступіў са зваротам да *Жыдоўскіх* арганізацыяў ЗША, Францыі і *Велькай Брытаніі.* | “*Жыдоўскія*” яшчэ так сабе (хоць назвы нацыяў нам прывычней пісаць з малой літары, а самі прадстаўнікі гэтае нацыі на такое найменьне крыўдзяцца, колькі ні тлумач пра гісторыю мовы), але *Брытанія* па-беларуску напэўна *Вялікая*, а ня *Велькая*. |
| Клімаў утрымліваецца ў двухмясцовай камэры плошчай ў шэсьць *мэтраў квадратовых*... | І тут польскі ўплыў — мэтры ў нас *квадратныя* (а *квадратовая* ў матэматыцы бывае ступень). |
| ...усе *пасадныя ўлады* павінны ўстрымацца ад выкананьня загадаў прэзыдэнта. | “*Пасадныя ўлады*” — гэта, як льга здагадацца, “*должностные лица*”. Але па-беларуску гэта будуць “*службовыя асобы*” або “*ўрадоўцы*”. |
| Што да далейшых узаемаадносінаў ЭЗ і Беларусі, то... яны шмат у чым залежаць ад *павагі правоў чалавека* і прагрэсу ў дэмакратызацыі краіны. | *Павага* бывае не *правоў*, а *да правоў*. Гэта, пэўна, чарговы палянізм. |
| Улады рабілі ўсё магчымае, каб *сапсаваць пляны* апазыцыі... | Сапсаваць пляны — значыць зрабіць іх кепскімі, неэфэктыўнымі. Тактыка слушная, але ў арыгінале напэўна стаяла па-расейску “*расстроить планы*”, а гэта будзе — *расстроіць*, ну, *разладзіць* яшчэ. |
| Звыклы *распавядаць* змовы ЦРУ і вылоўліваць амэрыканскіх шпіёнаў ва ўласнай краіне, Аляксандар Лукашэнка вырашыў ня здраджваць сабе... | “*Распавядаць*”, напэўна, стаіць замест расейскага “*раскрывать*” або “*разоблачать*”, а гэта будзе — “*выкрываць*”. |
| ...у тэндэры *прымалі ўдзел* пяць кампаніяў... | Удзел — *бяруць*. *Прымаць* яго — горш. |
| ...*аказваюць паслугі*... | Паслугі — *робяць* (або *чыняць*). |
| ...*ўваходзячыя званкі*... | Лепш: *уваходныя*. |
| *Заявіцелі*... | *Заяўнікі* (нават паводле акадэмічнага слоўніка). |
| ...а таксама прызнаць *састаялыя* ...выбары ... несапраўднымі | ...*якія адбыліся*... (“*состоявшиеся*”). |
| ...*на павестцы дня*... | *На парадку дня*. І толькі так. |
| ...*глава* БДІПЧ АБСЭ Герар Студманн... | “*Галава*”, “*кіраўнік*”, а не “*глава*”. Русізм. |
| ...зьнік *бяз зьвестак*... | Зьнікаюць (альбо прападаюць) — *бязь вестак*. |
| Беларусь наогул ня мае статуса ў Парлямэнцкай Асамблеі *Савету Эўропы*... | У Эўропе Савет ці Рада? Вось і “Слоўнік “Свабоды” кажа, што *Рада*. З Прагі, пэўна, лепш відаць. |
| ...*прадстаўляюць сабой* парушэньне... | “*Представляют собой*” — *складаюць* або *становяць* |
| ...крытычна настроены да *праводзімай* вамі палітыкі... | ...Да палітыкі, *якую вы праводзіце*... А калі конча трэба выказацца адным словам - *да праводжанай* вамі палітыкі. |
| ...*прыняць* неабходныя *меры*... | У нас ня *меры прымаюць*, а *робяць* (*чыняць*) *захады*. |
| ...*абвінавачваньні*, якія *выдзьвінутыя* супраць Зьміцера Абадоўскага... | ...*абвінавачаньні*, *высунутыя* (*выстаўленыя*, *вылучаныя*)... |
| ...*падвяргаліся перасьледу*... | *Зазнавалі перасьлед, падпадалі пад перасьлед* або проста — *перасьледаваліся*. |
| “Ліга заклікае вас *хутка* спыніць перасьлед Сяргея Абадоўскага й яго *членаў сям'і*... вызваліць Зьміцера з-пад варты на час *сьледчых разьбіральніцтваў*, ...забясьпечыць доступ да яго адвакатаў і ўпэўніцца ў тым, што ў будучым, у выпадку суда над Зьміцерам, суд быў адкрытым і *незаўзятым*”. | Тут лепш “*неадкладна*”, а ня “*хутка*”. Лепш яго *сваякоў* або яго *сямейнікаў*. “*Незаўзятым*” — мабыць, мелася на ўвазе “*беспристрастным*”, а гэта па-беларуску будзе “*бесстароннім*”. А калі “*непредвзятым*”, то “*непрадузятым*”. |
| “*Ліга заклікае... упэўніцца... што ў будучым... суд быў адкрытым...*” — | мабыць, тэкст перакладаўся з ангельскае, дзе стаяла штосьці накшталт: *to make sure that the trial were*... Але *to make sure* — ня толькі “*ўпэўніцца*”, але і “*гарантаваць*”, “*забясьпечыць*”. Атрымліваем: “*Ліга заклікае... забясьпечыць... у выпадку суду над Зьмітром адкрытасьць і бесстароннасьць працэсу*”. |
| ...*зрабілі магчымы ўзьнёсак* у правядзеньні дэмакратычных выбараў... | “*Унёсак*”, а ня “*ўзьнёсак*” (“*з*” сюды зайшло з рас. “*взнос*”). І робяць яго *ў правядзеньне* (вінавальны склон). А лепш сказаць: “*як маглі, прычыніліся*...” |
| ...*непаўнагадовых*... | ...*непаўналетніх*... |
| “У лісьце Чыгір *адвяргае* прад'яўленыя яму абвінавачваньні ў *крадзежы*”. | “*Отвергает*” — “*адхіляе*”, “*адкідае*”, “*адмаўляе*”, “*адрынае*”. І — у *крадзяжы*. |
| ...*абаснаваных* тлумачэньняў... | ...*абгрунтаваных*... |
| “Допыты журналістаў вядуцца ў рамках крымінальнай справы, *узбуджанага* супраць Чыгіра нібыта за няўплату падаткаў.” | Пераклад з расейскай, бо ад расейскага “*дела*” застаўся ніякі род зьвязанага зь ім дзеепрыметніка “*узбуджанага*”. |
| ...*непрабачальна* памылковы крок... | ...*недаравальна*... |
| ...зрабіў адную *ўразьлівую* выснову... | “*Поразительную*” — гэта “*дзіўную*”, “*надзвычайную*”, “*узрушальную*”, “*уражвальную*”... |
| *Спатрабаваў* зь фірмы “БелОСТ” крэдыт... | “*Спатрабаваў*” — замест рас. “*стребовал*”, а па-беларуску будзе “*спагнаў*”. |
| ...*перавышэньне ўладай*... | Альбо “*злоўжываньне ўладай*”, альбо “*перавышэньне ўлады*”. |

**Мікола Раманоўскі**

# Дзьве магілы Багдановіча

Зьбіраючыся ў вясельнае падарожжа ў Крым, мы з жонкай доўга не маглі вырашыць, куды падацца. Сябры й знаёмыя раілі кіравацца ў Алушту ці Судак, бо тамака ўсё таньнейшае, а прырода, мора й клімат амаль гэткія самыя, як у Ялце.

Аднак, крыху павагаўшыся, мы вырашылі кіравацца туды, дзе змагаўся са сваёй хваробай і памёр Максім Багдановіч, — у Ялту.

Зразумела, перад ад'ездам я зарыўся ў кнігі, каб знайсьці зьвесткі пра месца пахаваньня славутага паэта. Аднак і трохтомнік Багдановіча, і розныя энцыкляпэдыі сьцьвярджалі толькі вядомае ўсім — памёр у 1917 г. у Ялце.

Тады я патэлефанаваў сябрам. Аднак і тыя пасьля сваіх пошукаў адно разводзілі рукамі. Толькі за дзьве гадзіны да адыходу цягніка затэлефанаваў мой сябар, які здолеў даведацца, што Максім пахаваны на Аўцкіх брацкіх могілках.

Прыехаўшы ў Ялту, пасьпяхова засяліўшыся ў “кватэру пад ключ” ды пасмажыўшыся на пляжы з раніцы, па абедзе мы з жонкай накіраваліся ў музэй Чэхава, каб даведацца, дзе тыя могілкі месьцяцца. Супрацоўніца музэю папрасіла прабачэньня, калі пачула маё пытаньне, і прапанавала пачакаць гіда, які павёў замежнікаў у Чэхаўскі сад. Аднак тут якраз зьявіўся дырэктар музэю і, пачуўшы, што мы зь Беларусі й шукаем магілу Багдановіча, зьвярнуўся да нас:

— А, беларусы! Добры дзень, дзякуй, калі ласка, картошка-бульбяшка! Знаю-знаю!

Выявілася, што ня так даўно ў Ялце праходзіла нейкая сустрэча славянскіх пісьменьнікаў СНД. Былі й трое зь Беларусі. Прозьвішчаў дырэктар музэю ня памятаў, згадаў толькі, што адзін зь іх быў галоўным у “Беларускай энцыкляпэдыі”.

Магіла М.Багдановіча на гарадзкіх могілках у Ялце

На маё пытаньне пра Аўцкія могілкі дырэктар распавёў, што тыя даўно ўжо зьнесеныя, а наш Максім перапахаваны на Палікураўскіх могілках, што ля царквы на Палікураўскім узвышшы. Паводле ягоных словаў, туды накіроўваюцца ўсе афіцыйныя дэлегацыі зь Беларусі.

Пасьля ён прапанаваў нам схадзіць паглядзець домік Багдановіча. Распытаўшы шлях, мы падзякавалі і накіраваліся на пошукі — у блуканьне па зьвілістых вулках.

Зьдзівіла, наколькі добра жыхары Ялты ведаюць свой горад. Нам трэ было выйсьці да музычнай школы, а пасьля на былую вуліцу Багдановіча, якая цяпер завецца ці то Артылерыйскай, ці то Армейскай. Першы ж падпіты дзядзька доўга перапытваў, куды нам трэба. Мне, нарэшце, надакучыла тлумачыць, і я сказаў праўду — шукаем домік Багдановіча. І пачуў адказ:

— Дык адразу б казалі, што домік Багдановіча патрэбны.

І за хвіліну распавёў падрабязны маршрут.

Домік знаходзіцца ў невялікім дворыку. Цяперака ў ім месьціцца будаўнічы трэст. На сьцяне шыльда, што гэта помнік УССР і што тут жыў у 1909 г. беларускі пісьменьнік М.Багдановіч.

Да магілы Багдановіча мы вырашылі пайсьці заўтра.

На Палікураўскіх могілках ужо даўно не хаваюць — яны абгароджаныя мураванай сьцяной і падобныя больш да парку. Іх пранізваюць шматлікія сьцежкі, па якіх мы доўга блукалі, сустракаючы зрэдку надмагільныя помнікі ўкраінскіх і расейскіх паэтаў, рэвалюцыянэраў і лекараў. Нашага Максіма тут не было.

Гаспадыня хаткі побач з могілкамі на наш запыт як адрэзала:

— Зь Беларусі? Няма тут Багдановіча! Кожны год чалавек пяць-шэсьць прыходзіць і пытаецца. Няма Багдановіча тут...

Нейкі мясцовы хлапчук з фатакамэрай, які швэндаўся сярод помнікаў, упэўнена сказаў: шукайце Багдановіча на гарадзкіх могілках.

Ужо сыходзячы, вырашыў запытацца пра магілу Багдановіча яшчэ ў дзядка, які завіхаўся каля нейкай санаторскай вартоўні, што побач з Палікураўскімі могілкамі. І... той адказаў, што яна тут, нават згадзіўся паказаць. А наўзамен папрасіў працытаваць яму вершык Максіма, бо каго зь Беларусі ні спытае, ніхто ня ведае ніводнага.

Мы ўздымаліся каторы раз на ўзгорак Палікураўскіх могілак. Я цытаваў яму кароткі верш, тлумачыў незразумелыя словы, а дзядок спрытна запісваў:

Так цёпла цэлы дзень было,
Што дзед і той сьцягнуўся зь печы.
Ля рэчкі сеў, дзе больш пякло
І грэў пад старай сьвіткай плечы.

Сінеўся бор, цякла
вада,
Скрозь пахла
мёдам і
травою,
А дзеду нат і не
шкада,
Што хутка стане ён
зямлёю.

Мы падышлі да магілы, абкладзенай камянямі, дзе замест помніка быў кіпарыс.



Домік у Ялце, дзе ў 1909 г. жыў М. Багдановіч

— Вось гэта меркаваная магіла Багдановіча... Сюды нават дэлегацыі прыяжджаюць...

Ніякай велічы й уздыму я чамусьці не адчуваў. Толькі крыўду і зьдзіўленьне — няўжо беларусы ня могуць усталяваць тутака помнічак, аздобіць магілу... Нешта тут ня тое.

З гэткімі пытаньнямі я затэлефанаваў у Менск. У музэі Багдановіча паведамілі іншае: магіла з помнікам знаходзіцца... на гарадзкіх могілках, каля магілы нейкага Бірукова. Атрымалася, што просты хлопец з фатакамэрай ведаў больш, чым дырэктар дома-музэю Чэхава!?

Па дарозе на могілкі мы набылі невялікі букет мясцовых кветак, сіненькіх, падобных да васількоў, толькі крыху меншых. Купілі ў царкве сьвечку.

Прайшоўшы 30 хвілін пешкі ад набярэжнай, мы ступілі на прыступкі гарадзкіх могілак. Яшчэ праз 5 хвілінаў сьцяжынка прывяла нас да шырокай алеі, на якой вісеў іржавы паказальнік “*К Бирюкову*”, а ніжэй дапісанае фарбай “Багдановіч”.

З-за вялікага чорнага абэліску Бірукова выглянуў сіні помнічак з надпісам “Максім Багдановіч”. На галінцы дрэва побач гайдалася бел-чырвона-белая стужка. На магіле — вялікі прыгожы букет.

Раскручваем дрот, якім завязаная агароджа. Адчыняем брамку...

Здароў, Максіме... Ну як ты тут?

**Руслан Равяка, Баранавічы**
**Здымкі аўтара**

# З Новым годам!

**ГУРТ "ZET". (P) "КАЎЧЭГ", 2001.**

З музычнага боку гэтая праграма вялікай асалоды не прыносіць. Тут на першы плян выходзяць тэксты і манэра іх падачы. Зэтаўцы ў масках сьвядома правакуюць слухачоў. Каго — на абурэньне, каго — на ўзьнёсласьць і радасьць.

Першыя хіба падсьвядома адчуюць закладзеную ў тых песьнях бомбу, аднак ейны калібр наўрад ці змогуць вызначыць нават прыблізна. Другія будуць захапляцца адчайнай сацыяльнасьцю тэкстаў, іхнай вастрынёю і тонкім крытычным асэнсаваньнем беларускае рэчаіснасьці. У гэтым сэнсе мы маем справу з выразнай праявай самае сутнасьці рок-музыкі.

Але паколькі нашыя вушы, хочам мы таго ці не, звыкліся з прымітыўнай папсовай стылістыкай, падсьвядома мы прагнем хоць нейкай ды мэлёдыі. Мэлёдыя, аднак, у пляны "Зэту" ня надта ўваходзіць. Агрэсіўнае гучаньне, не сьпяваньне нават, а хутчэй дэклямацыя на мяжы крыку — вось прыкметы іхнага выкананьня.

Я не люблю папсы. Але і аматарам такога вось "зэтавага" музыкаваньня не зьяўляюся. Аднак не магу не адзначыць такія песьні, як "Баю-баю", "Незнаёмец" ці "Хлопчык". З агульнае стылістыкі альбому выбіваецца песьня "Танец сьмерці". Зрэшты, бальшыня песень вызначаецца сапраўднымі, вартаснымі рокавымі тэкстамі, якія ў межах іншай стылістыкі ня мелі б сэнсу. Дый сьцёб тут (прыкладам, *La Bamba*) не самамэта, а выглядае як апраўданы мастацкі прыём, падмацаваны дэталямі аздабленьня.

Аднак альбом я мог бы назваць хіба своеасаблівым "хаджэньнем у прымы", хобі і да адкрыцьцяў беларускай рок-культуры залічыць не насьмеліўся б. "А ўвогуле ўсё надзвычай добра" (канец цытаты).

**Х-Слухач**

# Fantasy

**ДЖАЗАВЫ ГІТАРНЫ ДУЭТ ІГАР ДАДЗІЁМАЎ – ГІДОН ХАРЦ. (P) 2000, ІЗРАІЛЬ. ДЭМАВЫДАНЬНЕ.**




Ігар Дадзёмаў — былы мянчук, брат музыказнаўцы Вольгі Дадзёмавай. Ён быў адным з заснавальнікаў менскага джазклюбу, потым зьехаў у Сочы, дзе выкладаў музыку, пасьля перабраўся ў Ізраіль. Там сустрэў іншага гітарыста, ураджэнца Еўпаторыі Гідона Харца. Гэты альбом яны запісалі ў хатняй студыі Ігара ў Бэер-Шэве. У *Fantasy* ўвайшло 11 нумароў: як вядомыя джазавыя стандарты, так і творы ўдзельнікаў дуэту. Сярод апошніх — напісаная яшчэ ў Менску тэма *Frost*, адна з найлепшых на альбоме.

Гучаньне дзьвюх гітараў ненавязьлівае, мяккае. Аранжаваньні (найперш стандартаў) не паўтараюць ужо вядомых у сусьветным джазе ўзораў. Так, інтэрпрэтацыя славутага шлягеру *Take Five* Пола Дэзманда дазваляе адчуць усё, на што здольныя музыкі. Тут і прафэсійнае адчуваньне партнэра, і індывідуальнасьць імправізаваньня, і густ, безь якога джаз ператвараецца ў штосьці кшталту неадрэпэтаваных "Дажынак".

Апрача названых ужо кампазыцыяў, вылучу *Jordu* Джордана, *Butterfly* Харца, *Noages* Рэйнхарта. Чым больш слухаеш гэты альбом, тым больш ён падабаецца, уцягваючы ў сваю інтэлігентную, вытанчаную атмасфэру.

**Невыязны СЛУХАЧ**

# 12 reflections

**АЛЯКСАНДАР УЛАСЯНКОЎ (ГІТАРА). (P) 2001, ЗША. ДЭМАВЫДАНЬНЕ.**

Аляксандар Уласянкоў — вядомы ў Беларусі гітарыст, выканаўца клясычнага ды аўтарскага рэпэртуару. У альбом, запісаны сёлета ў красавіку ў ЗША, увайшлі аўтарскія кампазыцыі, якія можна сьмела адносіць да сузіральнай музыкі яўна імпрэсіяністычнага кшталту.

Рэфлексіі Аляксандра зьвязаныя выключна з сузіраньнем прыроды, у сваёй музыцы ён імкнецца адлюстраваць розныя яе станы. Назвы кампазыцыяў (*Lullaby of The Sea* — "Калыханка мора", *Echo of Thunder* — "Рэха грому", *Seagull's Dance* — "Танец чайкі") ужо самі па сабе ствараюць пэўныя вобразы.

П'есы Аляксандра Ўласянкова — хутчэй лёгкія накіды, пэйзажныя замалёўкі, чым грунтоўныя, рупліва выпісаныя краявіды. Але музыка прыемная, яна можа быць фонам для нетаропкай гутаркі, напрыклад, пра экалёгію, зьберажэньне айчынных ды амэрыканскіх ляндшафтаў. "Беларусь — цуд некранутай прыроды", — распавядае БТ у сваіх такіх патрэбных, але часам абы-як зробленых сацыяльных кліпах.

Паводле ўзроўню музыка Аляксандра Ўласянкова куды больш мастацкая. Яна, можа, і ня ўзрушвае, але ў памяці застаецца. У адрозьненьне ад БТ, прыбіраць гук ня хочацца.

**Пленэрны СЛУХАЧ**

# За ліхімі за марозамі

**ДУЭТ "АЛЯКСАНДРА І КАНСТАНЦІН". (P) 2001.**

Альбом выйшаў у двух варыянтах — для нас і для Захаду. У суправаджальным тэксьце да першага, надрукаваным такімі дробненькімі літаркамі, што толькі ў павелічальнае шкло й можна разгледзець, выканаўцы просяць прабачэньня ў гурту *Kelly Family*, Джы Джы Кэйла і Луі Армстранга за тое, што ня здолелі "дакумэнтальна аформіць права на выкарыстаньне" іхных твораў. Гэта значны крок да цывілізаваных адносінаў. Гадоў праз колькі нашыя выканаўцы пачнуць набываць правы на выкарыстаньне чужых твораў.

Іншы варыянт альбому, нацэлены на заходнюю аўдыторыю, ня будзе зьмяшчаць ні гэтых кавэраў, ні, адпаведна, прабачальнага тэксту.

Альбом ня проста атрымаўся ўдалы, ён засьведчыў дэ-факта выхад на наш музычны рынак самабытнага і арыгінальнага калектыву. Дуэт "А&К" браў удзел у тэлеконкурсе "Зорная ростань" і атрымаў выдатную ўзнагароду — 100 гадзінаў бясплатнай працы ў студыі тэлебачаньня. Музыкі здолелі выкарыстаць той час надзвычай плённа. Канстанцін граў падчас запісу на шасьці розных гітарах, пад некаторыя фанаграмы падкладалася блёк-флейта ды пэркусія. Якасьць запісу, гучаньня наагул — вельмі добрая.

Дуэт адважыўся спалучыць беларускія народныя мэлёдыі з экзальтаваным амэрыканскім кантры. Рызыка была ня столькі ў тым, што рытміку бальшыні песьняў давялося істотна акцэнтаваць, а ў тым, што наблізіць вакальныя партыі да клясычнай кантры-музыкі вельмі складана.

Аляксандра Кірсанава мусіць яшчэ ўважліва прыслухацца да сябе, каб дакладна вызначыць тую мяжу, якая аддзяляе творчую знаходку ад няўдалага экспэрымэнту ці нават кічу. Бо, з задавальненьнем слухаючы незвычайныя вэрсіі народных песьняў, я ўсё ж адчуваў пэўны дыскамфорт, які, аднак, адыходзіў на другі плян перад усьведамленьнем таго, што праца атрымалася сьвежая і вартая ўвагі. Такія песьні, як "Ой, арол, ты, арол", "Арэхава чаша", загалоўная песьня і асабліва "Лётаў голуб", можна слухаць бясконца.

Музыкі часам нават пісалі на народныя тэксты арыгінальную музыку, якая з тымі тэкстамі аніяк не ўступае ў дысгарманічныя адносіны. Амаль у кожнай песьні ёсьць нейкія трапныя дэталькі, якія расквечваюць твор. У "Арэхавай чашы" гэта падгалосак, які хоць і нагадвае па стылі "Энігму", але настолькі тут арганічны!.. Завяршае альбом інструмэнтальная п'еса Канстанціна Драпезы "Салярыс" — прыгожы твор, які лішні раз кажа пра аўтара як пра гітарыста тонкага і ўмелага.

Што да кавэраў, дык яны — мінулае ў творчасьці "А&К". Музыкам ёсьць сэнс надалей працаваць зь "беларускім кантры". Бо гэта ў іх атрымліваецца і цікава, і добра.

**Д&П Слухач**

## *Гомельскі гіт-парад* Восень 2001 г.

| | |
|---|---|
| **Кампакт-дыскі:** | 1. "Я нарадзіўся тут". |
| | 2. "Легенды Вялікага Княства". |
| | 3. "Юр'я". "Вэсначуха". |
| **Відэакасэты:** | 1. "Звычайны прэзыдэнт". |
| | 2. "Адважнае сэрца". |
| | 3–6. "На чорных лядах"."Матрыца". "Глядыятар". "Маленькі Сьцюарт". |
| **Аўдыёкасэты:** | 1. "Легенды Вялікага Княства". |
| | 2–4. Данчык. "Мы яшчэ сустрэнемся". *NRM*. "Тры чарапахі". *NRM*. "Пашпарт грамадзяніна *NRM*". |

**Склаў Андрэй Бандарэнка паводле продажаў у Гомелі**

**Музыка**

# Містыка ў стылі *Jazz*

## *Канцэрт Сяргея Манукяна і Сэма Брыля*

Ня так, як старыя скарпоўскія рокеры граюць табе з аркестрам, калі ты каторы дзень сядзіш у сваёй маленькай, прасмаленай каморцы, пішаш вершы, як заўсёды, у стол. Ня так, як пяе Юры Шаўчук, калі ты забываешся, што сядзіш у залі, і проста слухаеш свае думкі, быццам бы ўсё разумееш. Было такое адчуваньне, быццам увесь Сусьвет засяроджаны ў тваёй зрэнцы, а ты нечакана, але з шалёнаю хуткасьцю, на толькі што скрадзенай падлодцы, поўны захапленьня, уразаешся ў айсбэрг... і нічога не разумееш. Гэта быў канцэрт Сяргея Манукяна і Сэма (Аляксандра) Брыля, што адбыўся 26 кастрычніка ў Доме афіцэраў.

— Ведаеце, многія выканаўцы, прыяжджаючы ў які-небудзь горад, кажуць, як ім тут падабаецца, як ім тут хораша і прыемна... Я ня буду гэтага казаць. Буду граць, і вы зразумееце, як мне — добра ці не. Увогуле, сёньня мы будзем іграць на стане, як пойдзе...

Бадай, толькі стан гукаапэратара быў далёка ня джазавы, і таму, каб не адоранасьць выканаўцаў, з-за рокавага, вельмі моцнага для джазу гуку ўсё задавальненьне ад сапраўднага майстэрства было б зьнішчана. Зрэшты, той млявы манукянаўска-брылеўскі, клявішна-саксафанічны дыялёг, які паступова пачаў даходзіць да кожнага, калі імправізацыя пачала парушаць усялякія музычныя межы, прымусіў забыць ня толькі пра гук. Дый звышспакойны Канстанцін Сяроў (гітара) больш вабіў, чым адштурхоўваў. А бясконцыя варыяцыі сапраўднага-ў-кепцы Брыля і містычна-дзіцячага Манукяна на тэму "дык мы сядаем на цягнік ці не?" зусім не здаліся такімі доўгімі. Бо толькі раз у месяц дбаньнямі Яўгена Ўладзімірава Менск можа цешыцца добрым джазам... А можа і ня цешыцца.

**Яўген Буры**

**Бібліятэка**

# Кампэндыюм беларускай гісторыі

**Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы. The History of the Belarusian Nation and State. Менск: Беларускі кнігазбор, 2001.**




Гэта кніга — адно зь юбілейных выданьняў, што пазначылі рубеж тысячагодзьдзяў. Падсумаваць вынікі гістарычнага разьвіцьця беларусаў, прасачыць асноўныя вехі іх "гістарычнага шляху" ўзяўся Беларускі нацыянальны арганізацыйны камітэт "Беларусь-2000". Была распрацаваная праграма дзеяньняў ажно з 27 праектаў, сярод якіх і правядзеньне навуковых дасьледаваньняў па праблемах зьяўленьня на тэрыторыі Беларусі славянскіх плямёнаў і фармаваньня беларускага этнасу, і завяршэньне факсымільнага выданьня "Нашай Нівы", і рэстаўрацыя й адбудова самых значных помнікаў айчыннага дойлідзтва, і ўзьвядзеньне помніка — сымбалю беларускай дзяржаўнасьці на адной з цэнтральных плошчаў сталіцы... Незразумела, каму даюць такія глябальныя заданьні сябры аргкамітэту — сабе ці іншым? Калі іншым — зразумела, чаму абсалютная большасьць праектаў засталася на паперы. Рэалісты давалі заданьні сабе.

Сябар аргкамітэту Ўладзімер Арлоў заплянаваў выдаць "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" — і выдаў. Ці апошні пункт праграмы — падрыхтоўка і выданьне кнігі "Беларусь-2000. Гістарычны шлях нацыі і дзяржавы". Заплянавалі сабе — выдалі.

Матэрыял пра цяжкі і слаўны шлях беларусаў пададзены годна, нават з пэўным ухілам у пампэзнасьць і гістарычную міталёгію. Напрыклад, з гонарам падкрэсьлена, што ў 1922 г. БССР выступіла як сузаснавальніца СССР. Па-першае, яе туды зацягнулі крамлёўскія правадыры, а па-другое, чым тут ганарыцца? Ці яшчэ: Беларусь у 1945 г. сталася адной з заснавальніцаў ААН. Можа, за мяжой нехта прачытае адпаведны ангельскі тэкст дый паверыць. Мы ж ведаем, як там было. Вось яшчэ: "Пяць стагодзьдзяў пасьля Грунвальду ніводзін узброены немец не ступаў на беларускія землі". А як жа баварскія войскі, што прыйшлі з Напалеонам?

Аўтары здолелі скласьці сапраўдны кампэндыюм беларускай гісторыі. У кнізе шмат ілюстрацыяў, мапаў, схемаў, беларускія песьні і гімны, сымболіка — дзякаваць богу, ёсьць шмат добрых кніжак, адкуль можна ўзяць матэрыял. Таму разьдзелы "Дзяржаўнасьць" і "Культура" атрымаліся зьместоўныя. Зь іншых выданьняў перайшлі й істотныя хібы. Так, у "Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі" не паведамляецца пра Альгердавы (1368—1372 г.) ды Вітаўтавы (1406 —1408 г.) паходы на Маскву, а таксама пра вайну Расейскай Імпэрыі супраць Рэчы Паспалітай у 1792 г. Брак гэтых войнаў і ў юбілейнай кнізе.

Вялікай вартасьцю кнігі зьяўляецца тое, што большасьць тэкстаў, зьмешчаных у ёй, перакладзеныя на ангельскую мову. Мо сапраўды ў сьвеце больш даведаюцца пра нашую краіну. Аднак некаторыя ангельскамоўныя разьдзелы (як "Генацыд беларусаў" Сымона Кабыша) не пададзеныя па-беларуску. І наадварот, некаторых беларускіх разьдзелаў няма па-ангельску. Не заўсёды задавальняе і якасьць перакладу. Нават узьнёслая назва кнігі "Гістарычны шлях" па-ангельску падаецца відавочна заніжана — проста як *History*. У беларускамоўнай прадмове аўтары зьвяртаюцца да беларускага народу, нашчадка славутых продкаў, а ў ангельскамоўнай — наўпрост да продкаў, што жылі тысячагодзьдзі таму. А часам усходнеславянскі князь пры перакладзе ператвараецца ў заходнеславянскага і г.д., і г.д.

Увогуле кніга вартая ўвагі ня толькі ангельскамоўнага чытача, але й беларускага. Можа, некаму зьвесткі зь яе пададуцца трывіяльнымі, але зробім скідку на юбілейны характар выданьня і пачакаем, што яшчэ з праграмы "Беларусь-2000" зьявіцца на сьвет.

**Валеры Пазьнякоў**

## Казкі жыцьця

# Васількі на плошчы Коласа



Пасьля доўгай рэканструкцыі адкрылася для пешаходаў плошча Якуба Коласа ў цэнтры сталіцы. У 90-я гады яна была слаўная тым, што на ёй зьбіраліся прадстаўнікі беларускай апазыцыі, перш чым рушыць па горадзе павольнымі сьвяточнымі калёнамі пад бел-чырвона-белымі крыламі запаветных сьцягоў.

Адкрытая ўлетку плошча расчаравала. Каляровай пліткай — жоўтай і сіняй, у суседзтве з традыцыйнай шэрай, — былі выкладзеныя проста пад нагамі пешаходаў агромністыя каласы і васількі. Аўтары праекту і гарадзкія ўлады даводзілі, што гэта вельмі прыгожа, арыгінальна і з улікам народных традыцыяў. Мяне гэта не пераканала. Наадварот, я ўбачыла ў гэтых вялікіх васільках, якія таптаді людзі, нейкі драматычны, нават злавесны знак.

Васількі — запаветная кветка беларусаў. “Няма лепш цьвяточка ад васілёчка”, — сьпявалі жнейкі. Максім Багдановіч у сваім “Апокрыфе” вызначыў яго як своеасаблівы сымбаль творчай інтэлігенцыі: музыкаў, мастакоў, кніжнікаў. І нават шырэй... На маю цяперашнюю думку, васількі — гэта сымбаль беларускіх князёў, нашай арыстакратыі. (Для іх сьціплую валошку “міжволі” ткалі сярод пэрсыдзкіх кветак і арнамэнту слуцкія ткачыхі.) Васількі — гэта нашы Дзяды!

Як шкада і як лягічна, а мне — трывожна, што амаль адначасна з рэканструкцыяй гэтай плошчы — сэрца гораду — у нас былі адмененыя як дзяржаўнае сьвята Дзяды.

У маёй радні па бацькавай лініі (“па мячы”) шмат мужчынаў насілі імя Васіль. Мой прадзед, бацькаў дзядзька і стрыечны брат — усе Васілі. Ці, што больш дакладна ў дачыненьні да старэйшых зь іх, — Базылі. З этымалёгіі Базыль, Васіль — “царскае імя”!

Князем Васількам зваўся брат Эўфрасіньні Полацкай. Імя Васілька ў XII—XIII ст. насілі многія полацкія, слонімскія, лагойскія князі.

...Нібы па кветках васількоў і іх сьцяблінах поўзаюць па плошчы маленькія людзі. Як мурашы. Таму, хто блізка да зямлі, гэтыя вялікія сымбалі цяжка расчытаць.

Адно кругі, адно палосы.

**Людка Сільнова**

Зьміцер Плян

# Прусак




Была звычайная восеньская раніца. Дождж лупіў кроплямі па шыбе. Па мокрым асфальце крочылі самотныя людзі, схаваўшыся пад парасонамі. Мікола прачнуўся і саскочыў з ложка. Усю ноч ён сьніў кашмар: вялікі і гідкі прусак залазіў у ягонае вуха. Ён гідка перабіраў сваімі ножкамі і пішчаў.

“Цэлы дзень без бацькоў. Файна!” — падумаў з радасьцю Мікола. Бацькі раніцай зьехалі ў вёску, а яго пакінулі аднаго ў кватэры.

Ён сеў у фатэль і запаліў, прагна ўдыхаючы дым. Яго позірк засяродзіўся на сьцяне, па якой поўз прусак і непрыемна варушыў вусамі. Хлопец скруціў газэту “Пагоня” і забіў яго. Дакурыўшы цыгарэту, Мікола зварыў моцную каву і сеў глядзець тэлевізар. Ён убачыў прэзыдэнта, што распавядаў пра “элегантную перамогу”. Раптам штосьці заказытала ў ягонай галаве. Мікола спачатку не зьвярнуў увагі, але казытаньне ня скончылася. Наадварот, асьцярожныя рухі ператварыліся ў нэрвовыя сутаргі. Хтосьці ў ягонай галаве перасунуўся дакладна на сантымэтар. “Трэба выйсьці на сьвежае паветра, — падумаў Мікола, — а то ў гэтай каробцы зусім з глузду зьехаць можна”. Хлопец апрануў паліто, узяў парасон і ключы.

Мікола крочыў па лужынах. Кроплі дажджу, стукаючы аб парасон, выбівалі мэлёдыю самоты. Раптам галаву хлопца пранізаў жахлівы боль. Мікола выпусьціў парасон і схапіўся за скроні. З носа і вушэй палілася кроў. Лужына на асфальце заружавела. Боль быў такі моцны, што Мікола, не ўтрымаўшы раўнавагі, зваліўся проста ў жыжу. Жанчына, што праходзіла міма, падумала: “Напэўна, наркаман. Ну і моладзь пайшла”. Праз колькі хвілінаў Мікола, сабраўшы ўсю сваю моц, устаў на ногі і, хістаючыся, паваloкся дадому. Ён амаль нічога ня бачыў ад жудаснага болю. Усё было ў шэрым вэлюме.

Раптам у сваёй галаве ён пачуў піск. У памяці Міколы паўстаў ягоны сёньняшні сон. “Не, гэта няпраўда... Гэтага ня можа быць... Не!” — падумаў ён.

Дома хлопец скінуў мокрую вопратку на падлогу. Адмыўшыся, ён апрануўся ў чыстае, уключыў магнітафон і запаліў.

Ізноў боль апярэзаў яго. Цяпер ён ужо не сумняваўся: гэта прусак залез у ягонае вуха. Гэта не магло так доўжыцца, трэ было вызваліцца, ачысьціць сваё цела.

Хлопец пайшоў у бацькаў пакой і ўзяў ружжо. Падрыхтаваўшы зброю, Мікола сеў у фатэль, прыставіў рулю пад вуха і націснуў на курок...

* * *

— Міхал Пятровіч, прывезьлі яшчэ аднаго самагубцу, — сказаў практыкант.

— Вязі яго сюды. Гэта нейкі жах: ужо пятнаццаты выпадак за тыдзень. Што робіцца з нашай моладзьдзю? А ўсё гэныя сатанінскія сэкты.

## Навіны культуры

### Караткевіч у рок-варыянце

**Прадусар Алесь Суша распачаў працу над новым музычным праектам.** На гэты раз беларускія рок-музыкі (Л.Вольскі, С.Корань, З.Вайцюшкевіч, А.Кулінковіч і “Палац”) будуць сьпяваць песьні на вершы Ўладзімера Караткевіча.

### Нашанівец сярод пераможцаў “Бардаўскай восені”

**На 8-м фэсьце беларускай аўтарскай песьні “Бардаўская восень” у Бельску-Падляскім Гран-пры і 30 гадзінаў бясплатнага запісу ў студыі Польскага радыё атрымаў польскі дуэт “Эўфарыя”.** Адным зь пераможцаў конкурсу стаў і магілёвец, аўтар “НН” Васіль Аўраменка.

### Нямецка-беларускі размоўнік

**Нямецкае выдавецтва *Reise know-how* трохтысячным накладам выдала першы ў гісторыі Нямеччыны нямецка-беларускі размоўнік.** Яго ўкладальнікам стаў Гольфэр Knaўф — 28-гадовы студэнт унівэрсытэту Білефэльд. Хоць даведнік спазьніўся гадоў на 60, ягоны стваральнік ганарыцца, што, жывучы ў Нямеччыне, можа нешта зрабіць для беларускай мовы.

**Э.Л.**

### Прыз графіку Татарнікаву

**Мастак Павал Татарнікаў атрымаў галоўны прыз Міжнароднае біенале кніжнае графікі, што ладзіцца пад эгідаю *UNESCO* ў Браціславе.** Гэта найбольш прэстыжная ўзнагарода з усіх, што дагэтуль атрымлівалі беларускія мастакі кнігі. У 1986-м адным зь пераможцаў гэтае біенале быў Мікола Селяшчук, але ягоная ўзнагарода — залатая плякетка — была меншае вартасьці. Свой Гран-пры, “Залаты яблык”, Татарнікаў атрымаў за афармленьне зборніку беларускіх народных казак “Царэўна ў падземным царстве” (выд-ва “Полымя”).

**Юрась Барысевіч**

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Мама, даруй,

што зьвязваюся не асабіста, а выпраўляю сваю карцінку. Сорамна глядзець табе ў вочы, хай бы нават на экране відэаперамаўляча. Зразумей, я не магла больш сядзець у нашай праклятай Навабеліцы і, як дура, корпацца ў Сеціве. У свае 16 гадкоў я нават на руінах Гомелю была ўсяго тройчы. Зь яго й пачала сваю вандроўку. Гэта няпраўда, што на Сяльмашы вядуцца агромністыя яшчаркі, а ў Волатаве кракадзілы. Паўсюль толькі бруд і пыл стагодзьдзяў ды нешматлікія мніхі-пустэльнікі з ацалелымі кнігамі. Вельмі зьдзівілася, не знайшоўшы ў Буда-Кашалёве аніводнага будысцкага храму. А вось у Жлобіне напаткала я помнік нейкаму дзядзечку лысаму з добрым такім носам, а на пастамэнце рэшта надпісу: “До рай аніц жлобская ацыя!” Мінакі нічога ўцямнага не сказалі. Зьвярнулася з запытам да свайго партатыўніка, дык ён, паскуднік гэткі, заглючыў. Засмуцілася і, сьцершы з грош-карты пару дукатаў, набыла бляшаначку чысьцюткае вады. Беларуская Водавытворня якраз ладзіла для моладзі сьвята. Панапрывозілі кучу ўкраінскіх музыкаў зь Львова, Кіева й Бранську. З нашых быў адно гурт “Яснавокі стрыптызэр” ды сьпявунька з харошымі губкамі Ярына Гіб-Гібкоўская, што пяяла свой супэрмэгагіт “Я раскрыю сваю таямніцу”. Шкада, што багата моладзі набралася ўсялякае дрэні, накшталт галюцынагенных мікрачыпаў сталінградзкага картэлю *Necrosoft*, ды паводзіла сябе брыдка.

У самым цэнтры Бабруйску месьціцца вялізная сажалка з сапраўднымі бабрынымі хаткамі. А так горад уразіў ня надта, бо замала там помнікаў даўніны. Хіба пару дамкоў сярэдзіны XX ст., вайсковыя казармы ды музэй Дануты Чыгір. У Асіповічах было вельмі халодна (блізу +20°C), і я нават не рызыкнула выходзіць зь летака. У сталіцы ж мяне чакала добрае надвор’е і вясёлы настрой. Ты не ўяўляеш, колькі тут навюткіх самаходаў, асабліва на праспэктах Быкава, Бязьвінна Забітых ды бульвары Гераінь Прастытутак. Усе самаходы на адмысловай падушцы, ня тое, што дапатопныя развалюхі ў нашай Навабеліцы. Завітала ў Парк Рэспублікі, паглядзела на алею Прэзыдэнтаў. Даўнейшыя помнікі з каменю й бронзы мне спадабаліся болей, чым мадыфікацыі галяграмаў апошніх пяцёх кіраўнікоў. Пазнаёмілася з хлопцам, што робіць газэту “Наша Мліва”. Мама, ён мне такое паказаў! Добра, хутка, па-беларуску. Файная ўсё-такі ў нас сталіца, найлепшая ў сьвеце Мар’іна Горка!

Менскае мора пакінула мяне абсалютна абыякавай. Толькі швэды, фіны ці якія-небудзь мурманцы могуць плёскацца ў такую халадэчу. Абысьці ж усе музэі на астравох, напэўна, і цэлага жыцьця ня хопіць. Помнік Мянеску на востраве Няміга ачмурэнных памераў, яшчэ большы, чым манумэнт Яну Радзівілу ў нас дома. Цяпер я трымаю шлях на вёску Глёбусава, за ёй — у Нясьвіскае княства, потым — Баранкі, а стуль — на Ваўкавыйск па сьлядох аўтара майго любімага раману “Імя грушы”.

**S.B.**

## Дзе варта быць

### Вечары Дударава

**6 лістапада а 17-й у Доме літаратара адбудзецца вечарына драматурга Аляксея Дударава.** Пасьля сустрэчы зь ім даюць спэктакль “Вечар” тэатру-студыі “Вольная сцэна”. Праўда, сп.Дудараў цяпер у бальніцы. Калі да аўторка ён не адужае, выступаць будуць толькі Мазынскі і акторы. Па квіткі зьвяртацца праз тэл.236-69-31.

А ў Купалаўскім — прэм’ера. 9 і 10 лістапада тут можна будзе пабачыць крымінальную мэлядраму Дударава “Кім” (рэж.А.Гарцуеў).

### Рэвалюцыя ў “Рэактары”

**84-я ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў клюбе “Рэактар” 7 лістапада можна будзе адсьвяткаваць разам з гуртамі *Zet, Zloma*, “Бан-Жвірба”, “Млын” і “Цмокі”.** Пачатак а 20-й. Квіткі каштуюць 3000 руб.

### Вокны аднаго гораду

**З 6 па 26 лістапада ў памяшканьні Музэю сучаснага мастацтва (каля пл.Якуба Коласа) будзе працаваць выстава “Вокны аднаго гораду – *Okna jednego miasta – Fenster einer Stadt*”.** У гарадзкія вокны будуць зазіраць Андрэй Басалыга, Малгажата Дзьмітрук, Анэтэ Крогер, Валерыя Маляўкіна, Вольга Нікішына, Раман Сустаў, Павал Татарнікаў, Гервін Шміт, Юры Якавенка. Адкрыцьцё 6 лістапада а 17-й.

### Сьвята габрэйскай кнігі

**З 11 да 18 лістапада ўсе аматары габрэйскай культуры могуць наведаць Пяты фэстываль габрэйскай кнігі.** Фэстываль распачнецца ў нядзелю а 15-й у Доме культуры чыгуначніка канцэртам і выставай эксьлібрысаў і карцін на тэматыку Торы, прадстаўленых мастацкай галерэяй “Брама”. Іншыя мерапрыемствы фэстывалю будуць праходзіць у Габрэйскім культурным таварыстве “Эмуна” (В.Харужай, 28) штодня а 18-й. Гэта прэзэнтацыя 6-га гістарычна-навуковага зборніка “Габрэі Беларусі: гісторыя і культура”, зборніка “Дубноўскія чытаньні”. Будзе і сустрэча зь беларускімі літаратарамі Г.Бураўкіным, С.Грахоўскім, Р.Барадуліным, сьвяткаваньне 80-годзьдзя з дня нараджэньня паэта Веніяміна Блажэннага. Закрыецца фэстываль прэм’ерай спэктаклю “Толькі дурні сумуюць” па п’есе Д.Альмагора, пастаўленай Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі на сцэне Купалаўскага. Інфармацыю праз тэл. 217-05-26 і 223-61-05. Уваход вольны.

**Вольга Гурло**

### Кампутарныя гульні

**6–9 лістапада ў Выстаўным цэнтры на Янкі Купалы, 27 пройдзе выстава “Пэрспэктыўныя тэхналёгіі і сыстэмы”.** Для спэцыялістаў – прэзэнтацыі новай кампутарнай тэхнікі ды сыстэмаў бясьпекі, лекцыі ды сэмінары, магчымасьць атрыманьня на месяц бясплатнага прафэсійнага гостынгу. Для аматараў стратэгіяў, квэстаў ды сымулятараў – цэнтар кампутарных гульняў ды прэзэнтацыя гульнявых кампутараў. 6-га й 8-га ўваход па запрашэньнях, 7-га й 9-га – для ўсіх. Працуе ад 10 да 18-й.

### “Крама” ў “Графіці”

**9 лістапада ад 20-й у менскім бар-клюбе “Графіці” выступае “Крама”.** Білеты за 3,5 тыс. Клюб месьціцца ў зав.Калініна, 16.

**Дзяніс Носаў**

### Філязофскія сэмінары

**У Інстытуце філязофіі Акадэміі навук запачаткаваны сэмінар “Беларускае мысьленьне: генэалёгія, кантэкст, пэрспэктывы”, што ладзіцца супольна навукоўцамі Інстытуту і Беларускага калегіюму.** Паседжаньні ладзяцца раз на месяц. 8 лістапада (17.30) адбудзецца сэмінар, прысьвечаны віленскай філязофскай школе (адрас інстытуту – Сурганава, 1а. Падыміцеся на 8-ы паверх, а там спытайце).

### Мастакі перабіраюцца да Палацу

**Мастакоў, што раней прадавалі свае творы на пляцы Волі, цяпер трэба шукаць на Кастрычніцкай пл. між Палацам прафсаюзаў і Музэем вялікай айчыннай вайны.** Новы рынак разьлічаны на 140 гандлёвых месцаў.

### Лекцыя пра “Бум-бам-літ”

**У Беларускім калегіюме Юрась Барысевіч прачытае лекцыю пра літаратурную групоўку “Бум-бам-літ”.** Ведае, пра што чытаць: сам быў сярод заснавальнікаў. Аўторак, 18.30, Купалаўская бібліятэка.

**Э.Л.**

## “Наша Ніва” 90 гадоў таму

**Магілёў Беларускі.** Хоць наш горад і стаіць чуць не пасярод Беларусі, але мала яшчэ тут ёсьць інтэлігентаў, каторыя б цікавіліся нашай роднай мовай, нашымі звычаямі...Але ўсё ж такі, чым далей, і ў нас знаходзіцца больш людзей, каторыя чытаюць беларускую газэту, а тады і самі шыраць яе паміж людзей.

Ня дужа даўно прыйшлося мне гаварыць з такім чалавекам. Рабілася неяк лягчэй на душы, калі ён казаў, як у сваёй вёсцы (дзе быў вучыцелем) чытаў сялянам “Нашу Ніву” і як яны прасілі яго, каб часьцей чытаў ім пра ўсё, што робіцца па вёсках нашай абшырнай, але дужа цёмнай Беларусі. Ён жа пераказываў мне, што ў Пецярбурзе быў у аднаго прафэсара-Беларуса, каторы піша кніжкі па-нашаму, і той прафэсар іначай у сябе дома як толькі па-беларуску не гаварыў. “Калі да мяне прыйдзе беларус і ня будзе гаварыць сваёй роднай мовай, дык буду браць зь яго штраф, каторы пойдзе на выданьне і шырэньне беларускіх кніжак між беларусамі”, — казаў яму прафэсар. Прыемна было слухаць гутарку прафэсара. Калі нацыянальных сьвядомых людзей будзе больш (а іх усе прыбывае), дык скора не застанецца ў нас людзей, што дагэтуль ня вераць у адраджэньне Беларусі.

**Наша Ніва, 27 кастрычніка 1911 г. № 43**

## Новы праект “Нашае Нівы”



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якая будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы “Беларусь праз 100 гадоў”. З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

# Дапамагалі Філістовічу ня толькі з-за сваяцтва



**Колькі год таму мне трапілася кніга А.Лукашука "Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста". Прачытаўшы яе, я быў моцна ўражаны і ня менш зацікаўлены. Жывучы ў Вялейцы, на малой радзіме змагара, я нічога ня чуў аб ім.**

Менавіта зацікаўлены памяцьцю аб гэтым чалавеку, я і пачаў распытваць жыхароў в.Паняцічы (роднае вёскі Янкі Філістовіча) і навакольных вёсак Буйлі, Самалі, Ярмоліцы Вялейскага раёну.

Большасьць увогуле ня ведала нічога аб ім, некаторыя ўзгадвалі савецкую вэрсію аб "ворагу народу". Так адказала адна настаўніца з прозьвішчам Філістовіч на пытаньне, ці не сваячка яна Янку Філістовічу: "Что вы, я с этим предателем не имею ничего общего". А адзін дзядзька бязь ценю сумненьня паведаміў: "А як жа, ведаю. Філістовіч працуе загадчыкам фэрмы ў Латыгалі".

Так працягвалася даволі доўга. Усе мае пацыенты (працую я лекарам у Вялейскай паліклініцы), якія маглі быць, магчыма, сьведкамі тых падзей ці знаёмымі Філістовіча, у лепшым выпадку ўзгадвалі аповесьць "Па воўчых сьцежках".

Усё ж аднойчы мая цікавасьць была задаволеная. На ўжо стандартны мой запыт аб Філістовічу кабета сярэдніх год, сур'ёзна зірнуўшы на мяне, спытала на беларускай мове: "А вы жадаеце ведаць праўду ці тое, што пішуць у савецкіх кнігах?" Пачуўшы аб жаданьні шчырага расповеду, яна паведаміла наступнае.

Яе цётка па прозьвішчы Самаль вучылася разам зь Янкам Філістовічам і добра яго ведала. Ведала яна і бацькоў Янкі. Дарэчы, цікавая акалічнасьць: бацька Андрэй Філістовіч быў солтысам пры Польшчы і меў павагу і аўтарытэт сярод месьцічаў.

Узгадваючы самога Янку Філістовіча, жанчына адзначала, што ён быў надзвычай вясёлымі хлопцам. У прыватнасьці, любіў скокі і адмыслова танчыў, за што і меў ад аднавяскоўцаў мянушку "Янка-Чачотка".

Ня менш цікавым паведамленьнем было і тое, што, па словах цёткі, шмат хто ведаў аб вяртаньні Філістовіча ў 1951 г. і аб магчымых месцах яго знаходжаньня. Многія дапамагалі яму. І рабілі гэта ня толькі з-за сваяцтва ці колішняга знаёмства, шмат хто ўсьведамляў сэнс справы Янкі Філістовіча і сьвядома судзейнічаў яму.

Без сумневу, цётка ведае і памятае шмат, але яе сваячка ўзгадала нямнога, сама ж сп-ня Самаль ад сустрэчы са мной адмовілася, пэўна, з-за застарэлага страху, дый з-за таго, што і сучасная сытуацыя не заахвочвае да ўспамінаў аб Філістовічу Яну Андрэеевічу, ці, як помніць яго яна, Янку-Чачотку.

Але ж і гэтая невялікая кропля зьвестак аб гэтым чалавеку натхніла мяне напісаць, асабліва ў дадатак да артыкулу "Сёстры Філістовіча". Будзем спадзявацца, што ўсе фрагмэнты існуючай аб ім інфармацыі будуць належным чынам сабраныя і пабачаць сьвет у кнізе. І хлусьня ды маўчаньне, якія панавалі 50 год, будуць зможаныя.

**Мікалай Сьцебурака, Вялейка**

# А што там рэфармуюць?



**Дзяржава неаднойчы ставіла сабе ў заслугу тое, што ў нас захавалася ўсеагульная адукацыя. Напраўду ж захавалася савецкая школьная сыстэма, якая выбіваецца з сучасных умоваў якога-ніякога рынку.** Дзяржава клапоціцца ня толькі й ня столькі пра адукацыю ды адукаванасьць, колькі пра занятасьць дзіцячага часу. Чым больш вучні занятыя школай і ўрокамі, тым менш яны зьвязаныя з вулічным жыцьцём. Так, мабыць, думае дзяржава. І памыляецца. Лічаныя адзінкі імкнуцца вывучыцца. Астатнія ж, як на сваім уласным, так і на досьведзе папярэднікаў, ведаюць, што навучаньне адно фармальнасьць, бо бальшыня атрымае ў кожным разе свае ліпавыя траякі й чацьверкі. "Стаўце "двойку". Усё адно самі выпраўляць будзеце", — думаюць вучні (а нахабнейшыя й кажуць) у адказ на нездавальняючую адзнаку. Па вялікім рахунку, штогод, у залежнасьці ад школы, ад 45 да 95% вучняў мусіла б заставацца на другі год у той самай клясе.

Якія ж рэформы патрэбныя школьнай сыстэме? Не скасоўваючы абавязковай усеагульнай базавай адукацыі (9 клясаў), трэба зрэглямэнтаваць навучальны працэс і школьнае жыцьцё, усталяваць цьвёрды парадак нормаў пасьпяховасьці й паводзінаў вучняў. Вучняў, няздатных датрымліваць таго парадку, трэба бязьлітасна выключаць са школы, а ў разе рэцыдыву пазбаўляць права бясплатнага навучаньня. Няхай плацяць бацькі альбо дзяржава скіроўвае такіх навучэнцаў у спэцшколы з адмыслова падрыхтаванымі настаўнікамі. Гэта жорстка, але неабходна, каб адрадзіць (зарадзіць) зацікаўленасьць вучняў навучаньнем. Неабходным бачыцца й пашырэньне сеткі прыватных школаў. Стрыжнем новай сыстэмы мусіць быць усёабдымная й безумоўная, але паступовая беларусізацыя. Хоць у цяперашніх варунках не зусім ясна, ці здольная Беларусь да хоць бы частковага ажыцьцяўленьня такіх трансфармацыяў.

**Сяргей Балахонаў, Гомель**

## Жарт



# У абарону Воюша



**Спадару Падбярэскі, Ваша крытыка ў бок Сержука Сокалава-Воюша (№ 45 ад 29 кастрычніка) беспадстаўная.** Казаць, што некаторыя яго творы састарэлі марально, — тое самае, што абвінавачваць у гэтым вершы Купалы. Чыя яшчэ паэзія, як не Купалава і Воюшава, так кранае за жывое? І хто з мастакоў слова не пісаў "на злобу дня"? У каго з паэтаў і празаікаў Вы ня знойдзеце "маральна састарэлых" твораў? У Вашу публікацыю на месца Сокалава можна падставіць імя любога паэта, сьпевака, пісьменьніка. Сокалаў-Воюш шмат зрабіў, а яшчэ больш зробіць для Радзімы.

**Тацянка, Менск**



## Прабачэньне

**Просім прабачэньня ў сп.Анатоля Матвіеўскага, які выпадкова аказаўся выяўлены на каляжы ў "НН" №42 ад 15 кастрычніка. Фатаздымак сп.Матвіеўскага быў узяты з рэдакцыйнае калекцыі выпадкова. Выкарыстоўваючы вобраз з фатаздымку, Рэдакцыя ні ў якім разе ня мела на ўвазе асабіста сп.Матвіеўскага і не хацела скампрамэтаваць яго або стварыць яму не адпаведны рэчаіснасьці вобраз.**





## Прыватныя абвесткі



*ахвяраваньні "Вольнай сцэне"*

**Тэатар-студыя "Вольная сцэна"** прыме ахвяраваньні ў выглядзе драўлянай старасьвецкай мэблі й рэквізыту: стол абедзенны, канапа, крэслы гнутыя, фатэль, вяшак-стойка, столік-грыбок, этажэрка, парасон, вээр і г.д.
Ахвярадаўцы набудуць права наведваць усе спэктаклі бягучага сэзону бясплатна! Т.: 236-69-31, 227-53-96

*вітаньні*

**Іраідзе!**
Яшчэ і Ты,
Як і мая Айчына,
Зірнеш на сьвет
Вясёлымі вачыма.
Яшчэ надзея ёсьць
Прыйсьці да ладу.
Не адвядзі,
Заступніца, пагляду!

**Вясёлую, прыгожую, разумную** і па-дзіцячаму даверлівую Іраіду ўшаноўваем і славім у Дзень народзін. Тыя, што разам па дарозе да Храму

**Нястомную руплівіцу**, беларускага дойліда Іраіду віншуем з Народзінамі! Сьвяткуем разам! Эскуляпы

**З Днём народзінаў!** Анёлу Залатую Карону. А Вам, Алена Юр'еўна, добрага здароўя. Ганна

**Віншуем Міласлава** з м.Івянец з Днём народзінаў. Сябры

*гімназія*

**1 верасьня 2002 г.** у цэнтры Менску мае адчыніцца новая беларуская гімназія. Хто хоча патрапіць у яе і хто мае прапановы па яе стварэньні, тэлефануйце: 213-43-52 (ТБМ), 288-68-91 (Ігар, пасьля 20.00)

*кантакты*

**Ня вешай носа!** Туліся да сьвядомых беларусаў, якія шануюць мову, гісторыю, культуру. Т.. 256-03-04 (з 20.00 да 22.00) Галіна

*ідэі*

**Ole-ole-ole, BNPIUP**. Siabry, nie zabyvajcie BNPIUoŭca Viciebsku. M-n

**Мэдыкі не займаюцца** разьбою па дрэве (да пытаньня пра апэрацыю на галаву прэзыдэнта). Міхась Мікалаевіч

**Колькі можна** друкаваць гэнага Глёбуса? Надакучыла ўжо. Вік

**Сэнс культуры** – у ейным спажываньні. Зробім беларушчыну даступнай для кожнага суайчыньніка. Стварайце Брацтвы, якія стануць аплотамі нашай цывілізацыі. Без палітыкі, безь нянавісьці, але з Богам

**Той, хто будуе Храм:** Храм Духа Сьвятога – Вашае сэрца, Госпад з Вамі ў гэным Храме

**Малітвай шчырай** мацую веру,
Гару агеньчыкам я сьвечкі кволай.
Я бачу шэрых птахаў у небе шэрым,
Я бачу сьветлага анёла.
Зь ім у сьвеце гэтым лягчэй мне жыць –
У спакоі вочы я апускаю долу,
Я ведаю, мой Шлях ляжыць
Пад крыламі майго Анёла

**Зважаючы на цэнзуру** ў газэце "Наша Ніва", стаўлю... Наталька Базылевіч

**Эліта і Гонар Беларусі** – сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ

**Спадары незалежныя** журналісты некаторых незалежных СМІ, ці не для таго вы крычыце пра "паразу", каб апраўдаць уласнае маладушша?

**Дарыда жывы!** Ёсьць яшчэ час надрукаваць гэтую абвестку

**Алесю!** Не забывай родны Ваўкавыск! БОГ, калі ён ёсьць, выратуе Беларусь... і мы. Віталь

**Брацтвы** – традыцыйныя аплоты беларускай культуры. Ня ўцягваючыся ў палітыку, Брацтвы змогуць абараніць усё, што блізкае, каштоўнае й сьвятое для Беларуса

**Беларусы!** Абаронім каштоўнасьці й традыцыі нашай цывілізацыі. Прапануем новы праект. Гуртуйцеся й стварайце Брацтвы (на ўзор тых, што існавалі ў Сярэднявеччы)

**Які сэнс у барацьбе** за беларускамоўныя школы, калі ў Горадні няма ніводнага беларускамоўнага дзіцячага садка? Хто мае досьвед, дапамажыце. 230003, Горадня, вул.Шчорса, 52-79. E-mail: harrier@tut.by

*кампутар, кнігі, музыка*

**Запрашаю чытачоў** газэты "Наша Ніва", на прэзэнтацыю кнігі А.Астапенкі "Паслухайце нацыяналіста". Прэзэнтацыя адбудзецца 15 лістапада а 18-й у Менску на вул.Кірава, 21 у Беларускім нацыянальным гуманітарным ліцэі

**Дашліце, калі ласка,** першыя два тамы са зб.твораў Рыгора Барадуліна апошняга выданьня. Т.: (02350) 2-16-84

**Іншагародні студэнт** прыме ў падарунак або за сымбалічную цану кампутар. Alehiv@rambler.ru

**CD ("Народны альбом",** "Новае неба", NRM, "Крыві", "Юр'я", "Безь білета" і інш.). Т.: (у Гомелі): 45-11-51

**Haradzienskaja BMA** razam z Antyfacentram praciahvaje žbirać da vyhadu CD "Muzyki suprać faszyzmu" hurty, jakija majuć takija pohlady. Dasyłajcie svaju musyku ŭ kasetnym vyhladzie ci na CD na adras: 230003, Horadnia-3 p/s 62, ci telefanujcie (8-029) 602-98-86 (Andrej). Nasz e-mail: antyfa_gr@tut.by

**"Адважнае сэрца"**, "Глядыятар", "Матрыца", "Ісус", "На чорных лядах" і інш. Ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Аўдыёкасэты** беларускай рок-, поп-, фольк- і інш. музыкі ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**CD "Я нарадзіўся тут"**, "Легенды...", "Народны альбом", "Крыві" "Людзям" і іншае ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Выйшлі ці не** новыя нумары "Голасу Краю"? Адкажыце

*праца*

**Грузчыкі-студэнты** (будаўнічыя матэрыялы, фуры, мэбля і інш. грузы) хутка, танна, нядорага. Т.: (8-029) 477-93-12

**Няма за што.** Выканаем і больш складаную працу. Брыгада грузчыкаў-студэнтаў. Т.: (8-029) 477-93-12

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

*студэнцкі білет*

**Студэнцкі білет** на імя Зуя Андрэя Тадэвушавіча №004083 лічыць несапраўдным





## Паштовая скрынка



**Тамары Вал-й (Судзіл-й) з Выгару.** Калі ласка, затэлефануйце або завітайце ў газэту "Наша Ніва".

**К.К-най з Гомелю, Усеваладу зь Вялейкі, Раману зь Ліды, У.Л-му зь Менску.** Вашы сабачыя гісторыі як па-чужому пісаныя. Прыдумайце сабе свае фэльетоны з працягам, не працягвайце чужога.

**Ігару П. зь Менску.** Імкнучыся дыскрэдытаваць улады, Вы дыскрэдытуеце краіну. Уявіце, што Вашы занатоўкі прачытае замежнік. Ці палюбіць ён пасьля гэтага Беларусь? Вы самі ці пісалі гэта з павагай да сваёй краіны? Пазьбягайце голага ачарняльніцтва.

**Аляксандру У. з Гомелю.** Усё пра футбол ды пра футбол. А ўжо ж не сэзон!


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**


Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая 6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак Кошт свабодны Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр Газэты "Известия" д 8, кв. 173.
Наклад 3657
Нумар падпісаны ў друк 4.11.2001.
Замова № 6462 .
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная 20а/2а